ЛіМ

# Каб гучала слова

Напярэдадні XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адбыўся Прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі і справаздачны сход Мінскага гарадскога аддзялення СПБ.

**Ірына ТУЛУПАВА**

Для літаратара вельмі важна данесці сваё слова да чытача. Творцы падышлі да кірмашу з новымі кнігамі і арыгінальнымі ідэямі.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец адзначыў: «Мне імпануе, што ў нашай краіне так шырока развіваецца кнігавыдавецкая дзейнасць. І наша творчае супольніцтва, мае калегі, якіх аб'ядноўвае Саюз пісьменнікаў Беларусі, прыкладваюць намаганні, каб дзяліцца сваімі творчымі здабыткамі з чытачамі, жыхарамі Беларусі і яе гасцямі».

Удалося наладзіць выданне «Бібліятэкі Саюза пісьменнікаў Беларусі», у якой выйшла шмат выдатных кніг класікаў беларускай літаратуры і сучаснікаў.

Падводзячы вынікі Года кнігі, старшыня СПБ спыніўся на тым, чым пісьменніцкая грамада можа ганарыцца, і пазначыў праблемы, над якімі яшчэ трэба працаваць. У прыватнасці, сярод станоўчых тэндэнцый — павелічэнне выпуску кніг членаў пісьменніцкай арганізацыі. Практычна ўсе заданні, якія былі пастаўленыя перад пісьменнікамі ў 2012 Годзе кнігі, выкананыя, у тым ліку шырока адзначаныя 130-годдзе класікаў нашай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа, 100-годдзе Максіма Танка; па краіне праведзена больш як 150 літаратурных конкурсаў. Вельмі ўрачыста і святочна адбыўся Дзень беларускага пісьменства ў Глыбокім. Шмат пытанняў удалося закрануць на сустрэчы пісьменнікаў з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам.

Зала ў Доме літаратара ўпрыгожана партрэтамі творцаў, сюды часта наведваюцца дзеці, і вельмі добра, што яны адчуваюць прысутнасць менавіта ў літаратурнай зале. Робяцца захады па тым, каб Дом літаратара цалкам стаў пісьменніцкім. Прынята рашэнне размясціць у Музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны творы пра гераічнае змаганне нашага народа, стварыць спецыяльны раздзел, прысвечаны пісьменнікам-франтавікам і тым, хто піша на гэтую тэму.

Паводле Мікалая Іванавіча, прыкметным стаў прарыў у песеннай паэзіі. Як прыклад — творчасць Івана Юркіна, песні якога гучаць у выкананні вядомых артыстаў эстрады і ацэненыя кіраўніцтвам краіны. Творы літаратараў перакладзеныя на 17 моў свету. Пісьменнікі пабывалі ў розных абласцях і рэгіёнах краіны. Рыхтуецца паездка ў Віцебскую вобласць. Творцам урэшце выдзелены мікрааўтобус, і можна стварацць мабільныя групы, якія змогуць выязджаць на сустрэчы ў рэгіёны.

У гэтым годзе запланавана выдаць не менш як 250 кніг, і ў гэтым, паведаміў Мікалай Чаргінец, пісьменнікі разлічваюць таксама на дапамогу недзяржаўных выдавецтваў.

# XX Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш

## 6 — 10 лютага 2013 г.

*Фота Кастуся Дробава*



# Акцэнты форуму

Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш звычайна распачынае выставачны год ва ўсім свеце. Але сёлетні форум будзе выконваць і іншыя значныя функцыі. Завяршыўся Год кнігі, не так даўно быў падпісаны Закон «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь». Таму выстаўка стане і пляцоўкай для падвядзення вынікаў, планавання далейшай працы, абмеркавання актуальных пытанняў галіны. Пра тое, якім будзе кірмаш, якія праекты будуць прадстаўлены на выстаўцы, — наша гутарка з Аленай Паўлавай, начальнікам упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

**— Алена Савельеўна, ці можна лічыць, што XX Мінская міжнародная кніжная выстаўка стане пэўнага кшталту падвядзеннем вынікаў Года кнігі?**

— Перш за ўсё, выстаўка юбілейная! Форум актыўна працаваў усе 20 год і захаваў свае традыцыі і назапашаны вопыт. І калі тэмпы развіцця кірмашу не такія хуткія, як гэтага хацелася б, то на гэта ёсць свае аб'ектыўныя прычыны: сусветныя тэндэнцыі да зніжэння выпуску кніг, імклівага развіцця інфармацыйных тэхналогій, некаторага запавольвання тэмпаў выставачнай дзейнасці. Не будзе памылковым і сцвярджэнне, што XX Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш — гэта і падвядзенне вынікаў аб'яўленага ў Беларусі Года кнігі, яго фінальны акорд. Акцэнтная нота форуму, яго дэвіз — «Чытаючы кнігу, знаходзіш сябе». Ён як ніколі актуальны і закранае задачы, звязаныя з падтрымкай кнігі і чытання. Іх рашэнне залежыць ад плённай прапагандысцкай працы спецыялістаў і энтузіястаў кніжнай справы.

**— Прыадкрыйце таямніцу, якіх гасцей Беларусь будзе вітаць на выстаўцы?**

— Паводле папярэдніх дадзеных, на XX Мінскую МКВК завітаюць выдаўцы з 19 краін. Акрамя Беларусі гэта Азербайджан, Арменія, Венесуэла, Германія, Індыя, Іран, Італія, Казахстан, Куба, Малдова, Польшча, Расія, Славакія, ЗША, Таджыкістан, Туркменістан, Украіна, Францыя. Агульная колькасць экспанентаў — больш як 600.

Расія — краіна, якая выступіла восьмым па ліку Ганаровым госцем кірмашу. Яна «ўзыходзіць» на гэты п'едэстал ужо другі раз, першай прыняўшы гэты статус у 2006 годзе на XIII Мінскай МКВК. Ганаровымі гасцямі кніжнай выстаўкі-кірмашу раней ужо выступалі Украіна, Ізраіль, Казахстан, Францыя, Германія і Венесуэла. Варта падкрэсліць, што Расія не проста актыўны ўдзельнік выстаўкі, яна — адзін з самых буйных і яркіх яе экспанентаў. На працягу ўсіх 20 год існавання форуму расійскія ўдзельнікі прадстаўлялі аб'ёмную інфармацыю пра сваю краіну і яе кнігавыдавецкую сістэму, а таксама сваю дзелавую і культурную праграму.

Цэнтральным экспанентам кірмашу сёлета выступіць Іран. Кнігавыданне гэтай краіны, гісторыя, культура і традыцыі паўстануць перад наведвальнікамі выстаўкі дзякуючы намаганням Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у Рэспубліцы Беларусь, Міністэрства культуры Ірана. На выстаўцы будуць прадстаўлены таксама буйныя калектыўныя экспазіцыі з Германіі і Францыі.

**(Заканчэнне на стар. 2.)**

# Акцэнты форуму

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Зразумела, дзяржаўнае кнігавыданне Беларусі таксама будзе прадстаўлена на адной з самых буйных экспазіцый форуму — сумесным стэндзе Міністэрства інфармацыі краіны. Тут наведвальнікі кірмашу змогуць пабачыць у поўным аб'ёме ўсё, што было выпушчана дзяржаўнымі выдавецтвамі ў 2012-м і ў пачатку 2013-м года, а таксама пазнаёміцца са многімі замежнымі выданнямі, якія не прадстаўлены ў асартыменце кнігарань і адсутнічаюць у фондах бібліятэк.

— Калі спыніцца на працы беларускіх выдавецтваў больш падрабязна, ці стаў 2012 год паспяховым для айчыннага кнігавыдання?

— Звернемся да лічбаў. Паводле дадзеных дзяржаўнага статыстычнага ўліку, усяго ў мінулым годзе выдавецтвамі і арганізацыямі розных форм уласнасці, якія займаюцца выдавецкай дзейнасцю, выпушчана 11 344 назваў кніг і брашур агульным тыражом крыху больш як 33 мільёны асобнікаў. У параўнанні з 2011 годам паказчыкі амаль не змяніліся. Адметна, што ўзрос лік кніг на беларускай мове — 1 075 назваў тыражом амаль 4 мільёны экзэмпляраў. У агульнай колькасці выпушчанай у рэспубліцы выдавецкай прадукцыі літаратура на беларускай мове займае каля 10 працэнтаў ад агульнай колькасці назваў і 12 працэнтаў у яе сукупным тыражы.

Колькасць выдавецтваў, якія рэальна фарміравалі выдавецкую сістэму Беларусі ў 2012 годзе, таксама не змянілася. Ад 11 да 50 назваў выпусцілі 90 выдавецкіх арганізацый, ад 51 да 100 назваў — 37, ад 101 да 200 назваў — 19 выдавецтваў. Пяць выдавецтваў — «Аверсэв», «Белы вецер», «Народная асвета», «Попурри», «Букмастер» — выпусцілі 200 і больш назваў кніжнай прадукцыі. Самым буйным у рэспубліцы па аб'ёмах вытворчасці па-ранейшаму застаецца «Харвест», які працуе сумесна з расійскімі партнёрамі, — 1 559 назваў тыражом 9,4 мільёна асобнікаў.

Павялічылі выпуск па колькасці ды тыражы і дзяржаўныя выдавецтвы: тут выйшла 583 назвы агульным тыражом каля 3 мільёнаў асобнікаў.

— Якія найбольш яркія праекты ажыццёўлены летась нашымі выдаўцамі?

— У Год кнігі дзяржаўнымі выдавецтвамі рэалізаваны шэраг значных па змесце і таленавітых па выкананні кніжных праектаў. Так, да 130-годдзя з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа «Мастацкай літаратурай» выпушчаны факсімільныя выданні зборніка вершаў «Шляхам жыцця» і паэмы «Сымонмузыка». У серыі «Жыццё знакамітых людзей Беларусі» тут выдадзены кнігі «Янка Купала. Мне сняцца сны аб Беларусі», «Якуб Колас. У думках, у сэрцах, у песнях», да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка — «Максім Танк. На камні, жалезе і золаце». Распачаты выпуск Збораў твораў Уладзіміра Караткевіча і Уладзіміра Навуменкі, выпушчаны чарговыя тамы Збору твораў Івана Шамякіна, серыі «Залатая калекцыя беларускай літаратуры». У серыях «Вера. Надзея. Любоў», «Паэзія і проза XXI стагоддзя» («Паэзія і проза XX стагоддзя») пабачылі свет творы сучасных беларускіх пісьменнікаў, выдадзены і кнігі для дзяцей.

Выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі» працягнуты выпуск энцыклапедый «Гарады і вёскі Беларусі», «Рэгіёны Беларусі», «Культура Беларусі», «Энцыклапедыя для школьнікаў і студэнтаў. Техника». Таксама пабачылі свет: энцыклапедыя «Сучасная геральдыка Беларусі», навукова-папулярныя выданні «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.», «Ваньковічы» з серыі «Беларускія радаводы», кніга Аляксандра Лакоткі «Архітэктура Беларусі ў еўрапейскім і сусветным кантэксце». Працягнута і серыя «Энцыклапедыя рарытэтаў», у яе межах выйшаў альбом «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911 — 1912 гадоў», выдадзены альбом «Сучаснае беларускае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. XXI стагоддзе», тут жа пабачыў свет шэраг кніг для дзяцей на беларускай, рускай, англійскай мовах. Да 1150-годдзя Полацка выдавецтвам «БелЭн» падрыхтаваны і выпушчаны прадстаўнічы альбом «Полацк. 1150», выдавецтвам «Беларусь» ? фотаальбом «Полацк. Гонар вякоў».

Дарэчы, выдавецтва «Беларусь» таксама адкрыла новую серыю кніг «Славутыя мастакі з Беларусі», у яе межах ужо пабачыла свет 6 маленькіх альбомаў. Выпушчаны і прадстаўнічыя альбомы «Зямля песняроў беларускіх» (да 130-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа), фотаальбом «Беларусь». РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прадоўжыла выпуск вельмі цікавых па змесце і аздабленні літаратурна-мастацкіх твораў сучасных беларускіх аўтараў, краязнаўчых і літаратуразнаўчых выданняў, кніг для дзяцей і юнацтва.

Вынікі працы творчай садружнасці аўтараў, мастакоў, кнігавыдаўцоў і паліграфістаў у 2012 годзе падведзены на чарговым 52-м Нацыянальным конкурсе «Мастацтва кнігі», які праходзіў 24 — 25 студзеня 2013 года. Пераможцы конкурсу будуць названы 6 лютага, у дзень адкрыцця XX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу падчас урачыстай цырымоніі ўручэння ўзнагарод.

— Напрыканцы мінулага года быў прыняты Закон «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь». Гэты дакумент неяк паўплывае на працу айчынных выдавецтваў?

— Выдавецкая справа мае важнае грамадска-палітычнае значэнне, а прававое рэгуляванне галіны было да гэтага часу «раскіданае» па розных заканадаўчых актах. Менавіта таму Міністэрства інфармацыі краіны ініцыіравала распрацоўку Закона «Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь», які — што вельмі значна для нас — быў падпісаны Кіраўніком дзяржавы якраз напрыканцы Года кнігі. Прыняцце Закона дазволіць ажыццяўляць комплекснае рэгуляванне сферы, забяспечваць дзяржаўныя прыярытэты ў развіцці выдавецкай справы. Пасля ўступлення Закона ў сілу існуючы механізм ліцэнзавання выдавецкай і паліграфічнай дзейнасці будзе заменены на механізм дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўцоў і вытворцаў друкаваных выданняў. Міністэрства інфармацыі будзе весці Дзяржаўны рэестр выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў, што дазволіць ажыццяўляць сістэмны ўлік усіх суб'ектаў выдавецкай справы.

Упершыню будзе праводзіцца дзяржаўная рэгістрацыя распаўсюджвальнікаў друкаваных выданняў. Гэта дасць магчымасць усебакова вывучыць рынак распаўсюджвальнікаў, упарадкаваць іх дзейнасць, правесці параўнальны аналіз айчыннага рынку распаўсюджвальнікаў з аналагічнымі рынкамі суседніх краін, уносіць далейшыя прапановы па яго развіцці і ўдасканаленні. Аналагічныя заканадаўчыя акты прынятыя і дзейнічаюць у Азербайджане, Казахстане, Малдове, Таджыкістане, Украіне і Узбекістане. Цяпер і ў Беларусі выданне і распаўсюджванне кніжнай прадукцыі заканадаўча ўрэгулявана.

# Старажытная бібліятэка і кнігарня на колах

«Белкніга» ўжо па традыцыі разам з кампаніяй «Макбел» выступае ў ролі выканаўчай дырэкцыі Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу і вырашае цэлы копмлекс арганізацыйных пытанняў. Таму, каб даведацца пра некаторыя сакрэты і адметнасці XX кніжнага форуму ў сталіцы, мы звярнуліся да генеральнага дырэктара «Белкнігі» Аляксандра Вашкевіча.

— Не вельмі хочацца раскрываць сакрэты выстаўкі да яе пачатку, але пра некаторыя сюрпрызы і навінкі я распавяду. Што датычыць працы самога прадпрыемства «Белкніга» на кірмашы, то ля ўвахода ў выставачны цэнтр «БелЭкспа» сёлета будзем прэзентаваць кнігарню на колах ? спецыяльны аўтамагазін, які ў далейшым плануем выкарыстоўваць там, дзе стацыянарныя кніжны гандаль не дастаткова добра прадстаўлены, ці падчас мерапрыемстваў рэспубліканскага і мясцовага маштабу. А на выстаўцы будзе ажыццяўляцца гандаль з Цэнтральнага кніжнага, дзе адзін з найбольш багатых асартыментаў.

Сёлета ўпершыню плануем задзейнічаць для працы другі паверх выставачнага цэнтра. Тут будзе прадстаўлены працэс рэстаўрацыі кнігі (у гэтым нам дапамогуць навучэнцы Мінскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа паліграфіі імя В. Харужай), а таксама арганізавана выстаўка графікі студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Арганізуем выстаўку кніг-лаўрэатаў Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» за ўвесь перыяд яго правядзення. Для зручнасці наведвальнікаў наладзім сумесную працу з рэстаранам «Ракаўскі бровар»: на другім паверсе выставачнага цэнтра размесціцца міні-кавярня, дзе можна будзе выпіць кавы і паласавацца пірожным.

Што да афармлення калектыўнага стэнда Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, то ён будзе стылізаваны пад старажытную бібліятэку. Лесвіцы, якія ў сапраўднай бібліятэцы дапамагаюць наведвальнікам дастаць патрэбную кнігу, тут стануць сімвалам імкнення да ведаў і самаразвіцця.

Раскрыю і адзін сакрэт міжнароднай праграмы. На выстаўку «Белкніга» запрасіла сваіх партнёраў ? піцерскую кампанію «Буквоед». Гэта прагрэсіўная сетка кнігарняў, якая сёння актыўна развіваецца і, што адметна, прывівае культуру чытання. Спецыялісты з «Буквоеда» будуць праводзіць майстар-класы, распавядуць, як арганізаваны продажы кніг у іх сетцы, на прыкладах з уласнага вопыту падкажуць, як павялічыць продажы, а кнігарню ператварыць у сапраўдны культурны цэнтр.

Марына ВЕСЯЛУХА

# Што вышэй за літаратурнае майстэрства?

Глыбіня думкі, аналітычнасць у выказваннях і публіцыстыцы, асаблівае стаўленне да слова — не толькі напісанага, але і вымаўленага — таго, што праз імгненне ўжо і не будзе існаваць, але застанецца ў чыёйсьці памяці і намалюе вобраз аўтара. Філосаф. Нават знешне ён падобны да філосафа. Аляксандр Казінцаў, якога добра ведаюць у Беларусі як публіцыста, празаіка, намесніка галоўнага рэдактара расійскага літаратурнага часопіса «Наш современник», падчас размовы стварыў менавіта такі вобраз. І не менш прывабны — Беларусі, якую ён вельмі паважае.

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА, фота Кастуся Дробава

**— Аляксандр Іванавіч, вы часты госць у Беларусі, добра ведаеце нашу краіну.**

— Так, я не першы раз у Беларусі. Прыязджаю вельмі часта, з задавальненнем — гэта прыгожая, добраўпарадкаваная, дагледжаная зямля. Зямля, якая працуе на чалавека — канечне, таму, што чалавек працуе на яе. Ніводнага пакінутага, занядбанага кавалачка. І, безумоўна, гэта цудоўныя людзі: і беларускія пісьменнікі, з якімі я даўно сябрую, і чытачы, і проста беларусы. Такога добразычлівага чытача, напэўна, больш нідзе не сустрэнеш.

**— А што, на вашу думку, асабліва вартае пераймання?**

— О! Вельмі шмат. Мы, што асабліва датычыць патрыятычнага выхавання, вельмі паважаем беларусаў: іх парадак, працалюбства, дзяржаўную дапамогу і клопат пра людзей, які ў Беларусі прысутнічае ў большай ступені, чым у нас.

**— Дарэчы, кажучы пра дапамогу... А пісьменнікам таксама трэба дапамагаць?**

— І пісьменнікам таксама. Увогуле, агульная сацыяльная абароненасць у вас нашмат вышэй. Магчыма, гэта позірк госця — чужую бяду рукамі развяду... Аднак шмат прыкладаў пацвярджаюць гэта. Ды і беларуская літаратура пра тое ж гаворыць. Ёсць у творах беларускіх пісьменнікаў сацыяльны аптымізм, даўно забыты ў расіян. Гэта выдатная якасць літаратуры. Яна павінна не проста адлюстроўваць жыццё грамадства, раскрываць глыбіннае жыццё чалавека, але і даваць прыклады мужнасці і ўпэўненасці, што ўсе цяжкасці можна пераадолець. Так што сацыяльны аптымізм беларускай літаратуры дарагога каштуе.

**— І каго б з аўтараў назвалі ў якасці прыкладу?**

— Перш за ўсё, як ні дзіўна, хаця ёсць у гэтым глыбокая логіка, — ветэраны, тыя, хто прайшоў вайну. Гэта людзі з асаблівым светабачаннем. Яны цэняць жыццё як ніхто, таму што ведаюць, якая тонкая бывае мяжа паміж жыццём і смерцю. Я заўсёды з задавальненнем чытаю творы Алеся Савіцкага. Мы яго і друкуем: два гады таму надрукавалі яго раман, які адразу ж быў прызнаны і атрымаў Прохараўскую прэмію — яна даецца ў галіне ваеннай літаратуры. Пісьменнікі наступнага пакалення — Алесь Бадак, Мікола Мятліцкі, Міхась Шэлехаў... Шмат і празаікаў, і паэтаў таленавітых.

**— Так, і насамрэч шмат каго вы друкуеце. А ці перакладаецца нешта з беларускай мовы спецыяльна для вашага часопіса?**

— Часцей гэта альбо напісанае па-руску, альбо пераклады, напрыклад, з «Нёмана». На жаль, культура перакладаў у нас знікла. Яшчэ ёсць з англійскай, заходнееўрапейскіх моў... А пераклады з моў дзяржаў СНД ці народаў Расіі практычна не здзяйсняюцца. Таму друкуем тое, што ёсць па-руску. Кожны год дзясяткі два беларускіх пісьменнікаў выходзяць да рускага чытача: ніводны часопіс у Маскве не прадстаўляе беларускую літаратуру і культуру так шырока. Вось і ў снежні мінулага года выйшаў чарговы нумар «Нашего современника», практычна цалкам прысвечаны Беларусі. Новымі творамі прадстаўлены М. Пазнякоў, Г. Марчук, Г. Пашкоў, А. Карлюкевіч, цудоўны беларускі філосаф Ч. Кірвель. Мы цэнім тое, што сярод аўтараў нумара — міністр інфармацыі Беларусі Алег Праляскоўскі.

**— А якія крытэрыі ёсць для таго, каб быць надрукаваным у «Нашем современнике»?**



— Вы ведаеце, шчырасць. Шчырасць перш за ўсё. Канечне, і літаратурнае майстэрства... Аднак... Вось наш галоўны рэдактар Станіслаў Куняеў — а ён ведае цану майстэрству — у сталым узросце стаў больш цаніць шчырасць пачуццяў. Ён друкуе часам маладых і кажа: «Аляксандр Іванавіч, не звяртайце ўвагі на хібы. Затое вы адчуеце, што чуваць сэрца гэтага маладога аўтара». Вось гэтае сэрца, якое можна пачуць, — умова таго, каб стаць нашым аўтарам.

# Спачатку — Радзіме

Расійскага пісьменніка з беларускімі каранямі Валерыя Казакова ў нас ведаюць добра: найперш па яго артыкулах ды кнігах, што ахвотна друкуюць беларускія выдавецтвы. У мінулым годзе, да прыкладу, у РВУ «Літаратура і Мастацтва» пабачылі свет раманы «Цень гобліна» і «Халоп Найсвятлейшага Дэмакрата». Акрамя таго, Валерый Мікалаевіч — адзін з пастаянных аўтараў часопіса «Нёман», прынамсі, традыцыйнага праекта «Сябрына»: Беларусь — Расія». Вядомы пісьменнік і дзякуючы шматлікім асабістым сустрэчам. Дарэчы, наведаць школу, універсітэт ці працоўны калектыў, выступіць перад чытачамі В. Казакоў ніколі не адмаўляецца, бо асабліва цэніць і шчырую размову, і магчымасць сустрэцца з суайчыннікамі. А час? Будзе. Як прызнаўся ў адным з інтэрв'ю «Нёману» В. Казакоў, «калі ты пісьменнік, то час для пісьменства заўсёды знойдзецца. <...> атрымліваецца, што чым больш працуеш, чым менш зашорваешся, тым больш магчымасцей і часу для творчасці». І чарговай нагодай завітаць у беларускую сталіцу стала XX мінская Міжнародная кніжная выстаўка.

— Валерый Мікалаевіч, якія вашы планы наконт выстаўкі?

— Я чакаю сапраўднага кніжнага фэсту, свята друку, умацавання месца Беларусі як адной з буйнейшых выдавецкіх краін Еўропы. Аднак у прынцыпе я не вельмі люблю кніжныя выстаўкі, бо гэта свята кнігавыдаўцоў і гандляроў. Асабліва гэта адчуваецца ў Расіі. Не памятаю ніводнай выстаўкі, каб творцу нешта дасталося, — яны там як атрыбут. У Беларусі не так, бо ў вас ёсць дзяржаўная палітыка ў галіне культуры, ідэалогіі і друку. Вельмі рады, што ў выстаўцы будзе браць удзел Юрый Палякоў, галоўны рэдактар «Литературной газеты» і адзін з найлепшых сучасных расійскіх пісьменнікаў, а таксама шмат маіх сяброў па творчым цэху.

— Якія сюрпрызы вы рыхтуеце беларускім чытачам?

— Мяркую ў гэтым годзе выдаць два раманы: «Гапоны» і «Шэрая плошча». І выдам іх спачатку на радзіме, у Беларусі, а потым ужо аддам расійскім друкарам.

Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА

«Ні адзін народ, ні адна краіна не могуць існаваць без жывой сувязі пакаленняў. І нашым сучаснікам надзвычай важна ўсвядоміць уласныя карані, каб рухацца наперад і несці ў свет вечныя ідэалы сардэчнасці, шчырасці і спагады.
Ведаць і памятаць гісторыю сваёй Радзімы, шанаваць сваіх продкаў і спадчыну, якую яны нам пакінулі, — гэта значыць быць духоўным чалавекам у самым высокім сэнсе, гэта значыць быць беларусам!»

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр ЛУКАШЭНКА — з уступнага слова да кнігі «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911—1912 гадоў»**

# Знакавыя старонкі

## «САРДЭЧНА ЎКЛАДЗЕНАЯ КНІГА...»




Менавіта такое азначэнне выдання «Янка Купала: «Мне сняцца сны аб Беларусі...»» (выдавецтва «Мастацкая літаратура», серыя «ЖЗЛБ») прагучала летась на снежаньскай прэзентацыі. Укладанне сапраўды мае вялікае значэнне, калі абагульняюцца адначасова і эпізоды жыцця вялікага чалавека, і тэксты навукоўцаў, пісьменнікаў, публіцыстаў (96 аўтараў, 120 матэрыялаў). Гэта тыя, хто непасрэдна ведаў Купалу, і найлепшыя знаўцы яго спадчыны. Лісты, артыкулы, прысвячэнні... Да таго ж гэта і ўкладанне 250 ілюстрацый — шмат з іх, як і шэраг тэкстаў, апублікаваныя ўпершыню.

Напрыклад, ліст Уладзіславы Францаўны Луцэвіч да Марыі Міцкевіч, жонкі Якуба Коласа, амаль адразу пасля вестexisting кі пра смерць Купалы. Гэта сапраўдны крык душы жанчыны, якая страціла мужа і сябра. Праз гэты крык мы ўспрымаем Купалу нібы яе, жончыным, усведамленнем — і становімся на крок бліжэй да разумення чалавечай сутнасці Песняра. А колькі іх яшчэ, не вядомых раней дакументаў і сведчанняў, у новай кнізе...

«Кніга не на дзень і не на год — на стагоддзі» — так кажуць тыя, хто пазнаёміўся з ёй. І гэта сапраўды так: па гэтым выданні складзецца воблік Купалы-чалавека, які ўбачаць нашы ўнукі і праўнукі. Звышадказнасць — і адпаведнасць ёй усіх, хто спрычыніўся да новай кнігі пра беларускага паэта-прарока.

## ЛЕТАПІС ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ

Напярэдадні і пасля 1150-гадовага юбілею самага старажытнага горада Беларусі — Полацка ў выдавецтвах краіны пабачыла свет шмат кніг, прысвечаных розным аспектам жыцця горада над Дзвіной — яго гісторыі, культуры, знакамітым палачанам. І гэта цалкам заканамерна. Полацк — калыска беларускай духоўнасці, нездарма ж ён першы сярод беларускіх гарадоў на год стаў культурнай сталіцай краіны. Кожная з новых кніг, прысвечаных гэтаму старому гораду, адметная як па змесце, так і па фармацы. Але, думаецца, не будзе памылковым сцвярджэнне, што адным з самых яркіх і значных праектаў стаў альбом «Полацк. 1150», які пабачыў свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».




Гэтую кнігу можна смела назваць летапісам Полацкай зямлі. Але летапісам асаблівым. Тут мінуўшчына і сучаснасць занатаваны не толькі ў выглядзе тэкстаў, але і ў шматлікіх фотаздымках. Яны нагадваюць пра старажытныя часы — крыж Ефрасінні Полацкай, Барысавы камяні, старыя фрэскі, іконы — і акрэсліваюць месца нашай генерацыі ў канве больш як тысячагадовай гісторыі горада і дзяржавы.

Кнігу адкрывае прывітальнае слова Кіраўніка дзяржавы, што сталася асабліва сімвалічным у Год кнігі. Адметна і тое, што ў альбоме ўпершыню змешчаны пераклады «Жыція Ефрасінні Полацкай» на сучасныя беларускую і рускую мовы. Аўтар перакладаў — даследчык даўняй літаратуры, доктар філалагічных навук Іван Саверчанка.

Выданне «Полацк. 1150» уключае тэксты, падрыхтаваныя супрацоўнікамі Інстытута гісторыі, Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, Полацкага нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка. Усе матэрыялы былі па-мастацку апрацаваны вядомым пісьменнікам, палачанінам Навумам Гальпяровічам. А фотаздымкі для праекта зроблены вядучымі фотамастакамі з Мінска і Полацка.

Гэты альбом — сумесная праца вялікага калектыву аўтараў. У іх ліку — вядомыя даследчыкі гісторыі і мастацтва Тамара Габрусь, Вольга Ляўко, Дзяніс Дук, Сяргей Тарасаў, Вячаслаў Даніловіч і іншыя. Хоць вынік іх працы — фотаальбом, па сутнасці, папулярнае выданне, ён мае сур'ёзную навуковую базу. Над мастацкім афармленнем кнігі працавалі Усевалад Свентахоўскі і Павел Семчанка. Асобныя тэксты выдавецтва атрымала з Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, дапамогу ў зборы матэрыялаў аказалі Полацкае кніжнае выдавецтва і рэдакцыя газеты «Полацкі веснік», а Нацыянальны мастацкі музей прадаставіў карціны мастакоў-палачан.

Аўтары і выдаўцы паспрабавалі папулярна распавесці гісторыю Полацка, пачынаючы з першых паселішчаў на берагах Палаты, утварэння Полацкага княства, знаходжання Полацкіх земляў у складзе Вялікага Княства Літоўскага, становішча ў рэгіёне ў часы розных войнаў. Завяршаецца расповед ужо нашымі днямі, звяртаецца ўвага і на перспектывы развіцця горада як гістарычнага і турыстычнага цэнтра.

Альбом «Полацк. 1150» пабачыў свет пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскага абласнога выканаўчага камітэта, Полацкага гарадскога выканаўчага камітэта.

## АЛЬБОМ ЯК МАШЫНА ЧАСУ

Як выглядалі беларусы 100 год таму? Якое адзенне насілі? Якія імёны мелі? Мы ж, па сутнасці, пра гэта нічога не ведаем. Але цяпер маем цудоўную магчымасць пабачыць выявы продкаў на свае вочы — у альбоме «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911—1912 гадоў». Гэты сапраўды ўнікальны праект стаў чарговым у серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў». Кніга пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».




Фотаздымкі Ісака Сербава часткова былі вядомы нашым навукоўцам і раней. Некаторыя фота захоўваюцца ў фондах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, а публікацыі, у якіх распавядалася пра ўсю калекцыю і нават указвалася аўтарства Сербава, з'яўляліся яшчэ напрыканцы 1980-х — у пачатку 1990-х гадоў. Ды лёс склаўся так, што толькі цяпер дзякуючы плённай працы кандыдата мастацтвазнаўства, дацэнта кафедры этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Вольгі Лабачэўскай (яна зрабіла вялікую работу па атрыбуцыі здымкаў, выступіла ў якасці складальніка выдання і аўтара навуковых каментарыяў), аддзела рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта (менавіта тут цяпер захоўваецца калекцыя фотаздымкаў І. Сербава), а таксама выдавецтва «БелЭн імя Петруся Броўкі» беларусы могуць пабачыць усе здымкі Ісака Сербава, што захаваліся. Назва альбома на вокладцы — на трох мовах: беларускай, англійскай і літоўскай, — на англійскую і літоўскую перакладзены таксама прадмова і подпісы да здымкаў. А гэта, несумненна, дасць і замежным даследчыкам магчымасць пазнаёміцца з выданнем.

Ісак Сербаў — краязнавец, настаўнік гімназіі ў Мінску, чалавек досыць шырокай эрудыцыі, аматар-этнограф тры гады запар — у 1911, 1912 і 1913-м (у гэты час якраз была надзвычай вялікая цікавасць да традыцыйнай культуры) падаваў заяўкі на фінансавую падтрымку экспедыцый па Беларусі. І атрымліваў ад Расійскага геаграфічнага таварыства грашовую дапамогу, шмат падарожнічаў па Беларусі і фатаграфаваў. Сербава цікавіла Палессе. Маршрут даследчыка пралягаў ад Мінска на Узду, на Слуцк, пад Баранавічы, Пінск, далей на поўдзень, на сучасную тэрыторыю Украіны, якая раней належала Беларусі, потым па Прыпяці да Давыд-Гарадка, Турава, Петрыкава, Рэчыцы, затым на тэрыторыю сучасных Жлобінскага, Светлагорскага, Калінкавіцкага раёнаў. Больш як 2 тысячы фотаздымкаў было зроблена даследчыкам падчас трох экспедыцый, а ў таварыства перададзена прыкладна 1500 фота. На жаль, да нашага часу захавалася толькі 442 фотакарткі з экспедыцый 1911 і 1912 гадоў. Спачатку яны захоўваліся ў Віленскай публічнай бібліятэцы, а цяпер — у фондзе Паўночна-Заходняга аддзела Расійскага геаграфічнага таварыства ў аддзеле рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта. Дарэчы, задума выдаць гэтыя фота асобным альбомам была яшчэ 100 год таму, надта ж уражвалі яны сяброў Расійскага геаграфічнага таварыства, але Першая сусветная вайна перашкодзіла яе рэалізацыі, а потым і само таварыства спыніла сваё існаванне.

У выданні «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава 1911—1912 гадоў» можна не толькі паглядзець фотаздымкі, але і знайсці досыць шмат карыснай інфармацыі. Так, упершыню ўведзены архіўныя крыніцы з аддзела рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта, у кнігу ўвайшлі вытрымкі з тэкстаў Сербава, яго справаздачы, а таксама вядомая праца «Беларусы-сакуны». У рэшце рэшт, тут можна пабачыць і як выглядалі самі сакуны.

## АДВЕЧНАЕ «ЖЫЦЦЕ»



«Жыціе блажэннай Еўфрасінні, ігуменні манастыра Уседзяржыцеля Святога Спаса ў горадзе Полацку» — такая дакладная назва двухтомніка, які пабачыў свет у Выдавецтве Беларускага Экзархата на пачатку Года кнігі.

Арыгінальны тэкст — спадчына XII стагоддзя, у факсімільным выданні выкарыстаны спіс стагоддзя XIV. Увогуле, «Жыціе» Еўфрасінні Полацкай дайшло да нас у шасці рэдакцыях і больш як 150 спісах. Перад навукоўцамі Інстытута мовы і літаратуры імя Я. Коласа і Я. Купалы НАН Беларусі, якія стваралі канцэпцыю выдання, стаяла вельмі няпростая задача, бо кожная эпоха дадавала да «Жыція» свае разуменні, уласныя нарашчэнні на гістарычным матэрыяле. Вялікі ўклад у справу зрабілі лінгвісты, супрацоўнікі аддзела гісторыі беларускай мовы. Без іх руплівай працы немагчыма было б вырашыць складаныя пытанні тэксталогіі «Жыція».

Цяжка пераацаніць значэнне навукова грунтоўна і прафесійна падрыхтаванага жыццяпісу слыннай Еўфрасінні. Перакладзены на сучасную мову, аздоблены руплівымі каментарыямі, ён можа быць спасцігнуты мноствам зацікаўленых людзей. Гэта тым больш значна, што перад намі — Сімвал, своеасаблівы пункт адліку нашай духоўнасці.

У выданнях 2012 года мы, беларусы, расказваем усяму свету пра сябе, нясем «на свет цэлы» не крыўду, як некалі казаў Янка Купала, а гонар — за сваю гісторыю і сучаснасць. Пазнаёміўшыся з гэтымі кнігамі, можна больш даведацца пра зямлю, якая ўзгадавала незвычайны народ. Беларусы з часоў Ефрасінні Полацкай і Францыска Скарыны заўжды цанілі моц Слова і берaглі Кнігу. На старонках «ЛіМа» мы прапануем вам звярнуць увагу на некаторыя

# Года кнігі

## ПРЫГОЖА, КАШТОЎНА, ПРАДСТАЎНІЧА




Альбом «Помнікі мастацкай культуры Беларусі» стане выдатным падарункам не толькі для нашых суайчыннікаў, але і для замежнікаў. Напрыканцы мінулага года ён пабачыў свет у выдавецтве «Беларусь» пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны. Над гэтым выданнем працаваў цэлы калектыў аўтараў — супрацоўнікаў аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі на чале з загадчыкам аддзела, кандыдатам мастацтвазнаўства Барысам Лазукам.

Некалькі год таму ўжо выходзіў альбом «Музей старажытнабеларускай культуры», дзе былі прадстаўлены найбольш каштоўныя і цікавыя прадметы з фондаў музея. Новае выданне таксама распавядае пра гэты музей, але пашырае межы папярэдняга, ды і сам матэрыял прадстаўляе па-новаму. Тут ёсць досыць важкі аб'ём тэкставай інфармацыі, у першую чаргу артыкулы, прысвечаныя асобным відам мастацкай культуры, помнікам мастацтва, якія захоўваюцца ў музеі старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі.

Кніга складаецца з некалькіх буйных раздзелаў, кожны з іх прысвечаны асобнаму віду мастацтва: іканапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладному, народнаму мастацтву... У выданні ўпершыню шырока паказаны традыцыйны беларускі касцюм і традыцыйныя тканіны, упершыню ўведзены ў шырокі ўжытак многія матэрыялы, звязаныя з беларускімі ручнікамі, посцілкамі, паясамі, сурвэткамі, абрусамі. Тут прадстаўлены прадметы побыту, мэбля, вырабы з дрэва, металу, выцінанкі, слуцкія паясы і культавае адзенне, дзе выкарыстаны іх фрагменты. Значная колькасць ілюстрацыйнага матэрыялу з'яўляецца ў друку ўпершыню. Варта звярнуць увагу і на помнікі мастацкай культуры, якія былі калісьці знойдзены ў чарнобыльскай зоне.

Адметна і тое, што ў кнізе «Помнікі мастацкай культуры Беларусі» ілюстрацыі не проста дапаўняюць тэкст, артыкулы прадстаўляюць шырокае бачанне тэмы, характарызуюць нашу мастацкую спадчыну, а фотаздымкі прадметаў паказваюць непасрэдныя прыклады гэтых відаў мастацтва — менавіта помнікі, што захоўваюцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі. Важна таксама і тое, што кожная ілюстрацыя суправаджаецца навуковай анатацыяй атрыбутыўнага характару: назва, інфармацыя пра тое, адкуль паходзіць гэты твор, яго кароткая гісторыя, памеры, матэрыялы, а калі гаворка ідзе пра творы жывапісу ці скульптуры, якія рэстаўраваліся, то ўказваюцца і прозвішчы рэстаўратараў. Гэтыя звесткі дазваляюць пашырыць дыяпазон альбома, выйсці за межы проста папулярнага выдання, зрабіць яго навукова-папулярным.

Зразумела, што альбом разам з інфармацыйнай функцыяй выконвае і функцыю прэзентатыўную. Праз прызму прадметаў з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры ён распавядае пра нашу мастацкую спадчыну ў цэлым.

## ЦЯГНІКОМ — ПРАЗ СТАГОДДЗІ




Ці часта здараецца, што 2000-ы наклад 1000-старонкавай кнігі з 1000 ілюстрацый і фотаздымкаў разыходзіцца, не паспеўшы трапіць у продаж? Менавіта такі шчаслівы лёс напаткаў кнігу «Гісторыя беларускай чыгункі. Са стагоддзя XIX у стагоддзе XXI», падрыхтаваную выдавецтвам «Мастацкая літаратура».

Выданне з'явілася вынікам сумеснага праекта Упраўлення Беларускай чыгункі і Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Удзельнікі праекта, беларускія вучоныя і чыгуначнікі, устанавілі дакладную дату ўзнікнення Беларускай чыгункі — 15 снежня 1862 г. Да стварэння кнігі спрычыніліся таксама калегі з Літвы і Польшчы. Цікава, што мастак-дызайнер Усевалад Свентахоўскі — унук чыгуначніка. Тэксты, створаныя гісторыкамі Валянцінай Яноўскай, Ігарам Валахановічам, Вольгай Волкавай і іншымі, носяць з аднаго боку энцыклапедычны, пазнавальны характар, а з другога — маюць даступную форму.

Кніга не толькі адлюстроўвае гісторыю беларускай чыгункі на працягу 150 гадоў яе існавання. Чытач зможа даведацца, з чаго пачыналася гісторыя чыгункі ўвогуле, з якіх перадумоў, на якіх эканамічных, юрыдычных і іншых падставах. Якімі былі першыя чыгункі ў Еўропе і Амерыцы. Якія людзі, як, у якіх строях працавалі на беларускай чыгунцы. Як паступова змянялася чыгунка, пра яе стан у цяперашні час. А яшчэ — такія грунтоўныя і ад гэтага не менш інтрыгуючыя пытанні, як уплыў чыгункі на сацыякультурны ландшафт, яе роля і значэнне ў палітычных падзеях, прафесійная падрыхтоўка чыгуначнікаў і шмат-шмат чаго яшчэ.

Не дзіва, што выданне ўжо падчас некалькіх першых прэзентацый разышлося сярод... Канечне, перадусім — сярод чыгуначнікаў, транспартных будаўнікоў, прадстаўнікоў працоўных дынастый. «Ці будзеце перавыдаваць кнігу?» — пытаюся ў намесніка дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктара Шніпа. «Калі будзе попыт...» Як жа не будзе! Пакуль без набытку засталася яшчэ немалая частка зацікаўленай аўдыторыі: пасажыры! Да таго ж, адлюстроўваючы гісторыю беларускай чыгункі, кніга распавядае пра гісторыю краіны ўвогуле. Калі так, то яе чытачы — усе беларусы.

## ВЯРТАННЕ ДА «ЗАЛАТОГА ВЕКУ»?




Выдавецтва «Мастацкая літаратура» прадстаўляе на кніжнай выстаўцы альбом «Валянцін Губараў. Важна ўсё». У яго ўключаны як творы мастака, так і яго дзённік, вершы і эсэ. Імя Валянціна Губарава, дарэчы, аўтара канцэпцыі і складальніка альбома, добра знаёмае аматарам кнігі. Ураджэнец горада Горкага, ён скончыў Маскоўскі паліграфічны інстытут. Дзякуючы шчаслівай для нас акалічнасці (жонка родам з Мінска) у 1970-я гады трапіў у Беларусь, дзе жыве і працуе дагэтуль. З 1972 года з'яўляецца сябрам Беларускага саюза мастакоў.

Як мастак і мастацкі рэдактар мае 35 дыпломаў на конкурсе «Мастацтва кнігі» (у тым ліку ўсесаюзных): за альбомы «Пад шчаслівай зоркай» (Мінск: Беларусь, 1982, з прадмовай І. Шамякіна), «Пакланіся прыродзе» (Мінск: Беларусь, 1984), «Мінск: учора і сёння» (Мінск: Беларусь, 1989) і іншыя.

Кожны альбом — заўсёды справаздача пра творчы шлях і здабыткі. Пакінем мастацтвазнаўцам магчымасць прааналізаваць работы майстра, выявіць тэндэнцыі ў творчасці, вызначыць яго месца ў сучасным беларускім мастацтве. Нас больш цікавіць асоба і шлях да мастацтва.

Вытокі таленту В. Губарава — у дзяцінстве. Першыя малюнкі, з якімі ён прыйшоў у студыю выяўленчага мастацтва Дома піянераў у сямігадовым узросце, — копіі ілюстрацый кнігі пра вайну 1812 года. У бібліятэцы яго дзядулі, які быў урачом царскай арміі, захоўваліся медыцынскія і мастацкія кнігі, у тым ліку пра вайну з Напалеонам. У апошніх мелася шмат шыкоўных гравюр.

Валянцін займаўся ў студыі Палаца культуры. Пасля вучыўся ў Горкаўскім мастацкім вучылішчы. «За кампанію» паступіў у Маскоўскі паліграфічны інстытут. Прычым ужо на першым курсе супрацоўнічаў з часопісам «Юность». У Мінску Губараў працаваў у выдавецтве «Беларусь», потым у «Мастацкай літаратуры», пазней у прыватным выдавецтве.

Яго імя звязваюць з эпохай «залатога веку» беларускай кніжнай графікі. Як мяркуе Губараў, адраджэнне кніжнай графікі мусіць быць не лакальным, рэгіянальным, але паўсюдным. Каб яно адчувалася на ўсёй прадукцыі, пачынаючы з вучнёўскіх сшыткаў, як тое назіраецца ў суседняй Прыбалтыцы. Магчыма, выданне альбома Валянціна Губарава — крок да новага росквіту кніжнай графікі?

## ЖЫЦЦЁ КОЛАСА — ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ




Асновай любой біяграфічнай працы пра пісьменніка з'яўляецца летапіс яго жыцця і творчасці. Але цяпер у айчыннай гуманітарыстыцы маюцца толькі чатыры асобныя выданні такога кшталту. Яны прысвечаныя Якубу Коласу (аўтар — Міхась Мушынскі), Максіму Гарэцкаму (Таццяна Дасаева), Міхасю Лынькову (Міхась Кенька) і Аркадзю Куляшову (Тэрэза Голуб). У мінулым годзе ў выдавецтве «Беларуская навука» выйшла новая кніга Міхася Мушынскага «Летапіс жыцця і творчасці Якуба Коласа».

Прыхільнікі і даследчыкі творчасці Песняра добра памятаюць папярэдняе выданне «Якуб Колас. Летапіс жыцця і творчасці», якое з'явілася ў далёкім 1982 годзе і было прымеркавана да 100-годдзя з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры. Вялікі для сённяшняга дня наклад (6 тысяч асобнікаў) хутка разышоўся па прыватных кнігазборах і дзяржаўных бібліятэках. Пра значнасць і запатрабаванасць працы сведчыць той факт, што спасылку на «Летапіс» можна сустрэць ледзь не ў кожным коласазнаўчым даследаванні.

І вось перад намі новая кніга. У першую чаргу кідаецца ў вочы яе памер. Калі папярэдняя мела 540 старонак, дык аб'ём новай павялічыўся ўдвая! Але больш істотна, што тут выкарыстаны іншы прынцып адбору матэрыялу. «Летапіс» 1982 года як асобнае выданне рыхтаваўся ўпершыню. Зразумела, на яго старонках не магло ўмясціцца ўсё багацце матэрыялу. Таму перавага была аддадзена «асноўным момантам» творчай і грамадскай дзейнасці». Апроч працы над мастацкімі творамі асноўнымі лічыліся афіцыйныя мерапрыемствы. Але з цягам часу стала зразумела, што факты, якія не ўвайшлі ў выданне 1982 года як нібыта другарадныя, неістотныя, на самай справе не менш цікавыя ў плане характарыстыкі Коласа.

Таму ў сваёй новай працы М. Мушынскі імкнуўся выправіць «ранейшую аднабаковасць, абумоўленую канкрэтнымі абставінамі мінулай эпохі». Як прызнаецца даследчык, у сваёй працы ён кіраваўся тым жа прынцыпам, які абвясціў Колас: «напісаць толькі праўду і ўсё назваць сваімі імёнамі».

Навізна новага варыянта «Летапісу...» бачыцца не толькі ў значным пашырэнні персанальнага складу акружэння. Істотная і форма, з дапамогай якой раскрываюцца такія кантакты. Так, замест лаканічнай канстатацыі пэўнага факта, які меў месца (сустрэча, гутарка, дасланы ці атрыманы ліст), даецца больш-менш разгорнутае паведамленне пра падзею і яе змест. А гэта вядзе да больш глыбокага погляду і на асобу Я. Коласа, і на яго ролю як арганізатара літаратурнага працэсу.

Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Карнавал на адлегласці сэрца

Люты — яркі час маскарадаў і весялосці па ўсёй Еўропе. Чаго вартыя толькі венецыянскія прадстаўленні, традыцыі якіх зыходзяць са старажытнарымскіх язычніцкіх святкаванняў! Мы ўжо даўно не язычнікі і маскі не надта любім. Аднак мінчане таксама могуць пахваліцца сваім Карнавалам слова.

Кожны год у лютым многія выдаўцы, кнігагандляры ды і проста прыхільнікі друкаванага слова сустракаюцца пад дахам выставачнага цэнтра «БелЭкспа». Гэты год павінен стаць асаблівым, і справа не толькі ў круглай даце. Гэта ж не жарт — дваццацігадовы юбілей! Думаецца, прыйшоў час крыху пад іншым вуглом зірнуць на фармат свята і на яго галоўных герояў — чытачоў.

Давайце адразу вызначымся, што ж такое кніжныя выстаўкі — частка традыцыі, даніна модзе ці неабходная ўмова функцыянавання і развіцця кніжнага рынку? Большасць удзельнікаў выставак прызнаюцца, што першы раз яны зрабілі гэта хутчэй з мэтай самасцвярджэння, чым па неабходнасці ці кіруючыся цвярозым разлікам. Тым больш што выстаўка — не таннае задавальненне. Нават для выдавецтваў, якія трывала стаяць на нагах. А што ўзамен? Многія кіраўнікі і галоўныя рэдактары, якія маюць вялікі вопыт працы ў акіяне рынку, разглядаюць удзел сваіх выдавецтваў у выстаўках як адзін з самых важных элементаў маркетынгу.

Але ці гэта асноўная прычына, па якой вось ужо 20 год запар у самы люты месяц года ў Мінск з'язджаюцца не толькі айчынныя выдаўцы, але і калегі з Расіі, Украіны, Літвы, Польшчы, Германіі, Францыі, многіх іншых краін? Наўрад ці. Усе мы збіраемся дзеля кніжных прэм'ер, новых ідэй, дзеля сустрэчы з калегамі і вырашэння з імі дзелавых пытанняў. У гэтым мінскі кніжны кірмаш па сваім сэнсе бліжэй да лейпцыгскага, дзе асноўны акцэнт робіцца не столькі на кнігі, колькі на чытанне. Тым падобныя выстаўкі і адрозніваюцца ад той жа франкфурцкай, напрыклад, дзе адбываецца продаж ліцэнзій на кнігі, праў на пераклады, экранізацыю, дзе пануюць у большасці законы бізнесу. У Мінску праходзіць менавіта літаратурны фестываль, арганізаваны ў нязмушанай, амаль сямейнай абстаноўцы. І тым ён прывабны, што сцірае суровыя межы бізнесу, робячы сцэны стэндаў толькі ўмоўным абазначэннем, набліжаючы чытача да выдаўца на адлегласць выцягнутай рукі.

Здавалася б, усё цудоўна. Аднак ёсць і свае «але», якія, бясспрэчна, з'яўляюцца адлюстраваннем няпростага становішча ў галіне ў цэлым. Усё ў гэтым свеце робіцца паступова. І калі мы не можам пакуль прэтэндаваць на тое, каб быць значнай пляцоўкай па продажы аўтарскіх правоў, то варта больш сканцэнтравацца на тым, каб зрабіць лютаўскае кніжнае свята эфектыўнай платформай па прапагандзе чытання. Дыскусіі, «круглыя сталы» і форумы павінны стаць больш публічнымі і прапаноўваць да абмеркавання самы шырокі спектр тэм і праблем. Сустрэчы з аўтарамі, прэзентацыі дзіцячых кніг, прэм'еры кніжных навінак... Нам з вамі неабходна навучыцца рабіць гэтыя падзеі больш гнуткімі, яркімі і нязмушанымі. Магчыма, варта было б па прыкладзе калег з іншых краін раздзяліць пляцоўкі для продажу кніг і пляцоўкі для мерапрыемстваў па прапагандзе кніг і чытання. Несумненна, варта пашырыць межы нашага свята і праводзіць штогадовы фестываль кнігі, уключаючы не толькі асноўны кірмаш, але і выстаўкі, канцэрты, кінапаказы, аб'яднаныя адной тэмай — кнігі і літаратура. Тады цалкам верагодна, што сваё наступнае дваццацігоддзе мінскі кірмаш адзначыць, ужо знаходзячыся ў спісе самых значных міжнародных падзей у кніжным свеце.

# Вяртанне дзеля памяці

Калі прыгадваю мінулагоднюю кніжную выстаўку, пераконваюся, што вяртанне гэтае ўсё ж мае пад сабой падставы. Менавіта тады вялікае ўражанне на многіх зрабіла кніга Анатоля Статкевіча-Чабаганава «Я — сын Ваш», першая з аўтарскай серыі «Летапіс беларускай шляхты».

Алесь МАРЦІНОВІЧ

У гэтай серыі сімвалічны знак — «Страла выратавання». Ён размешчаны і на гербе «Касцеша», да якога належаць Статкевічы, Сацкевічы-Статкевічы. Назва ж гэтага герба, паводле легенды, звязана з гісторыяй пра адважнага рыцара Касцешу. Сам кароль Баляслаў І Храбры быў уражаны ягонай мужнасцю, таму дазволіў яму змясціць у свой герб перакрыжаваныя стралу і меч: «На чырвоным фоне — выява раздвоенай стралы, скіраваная ўгору; у кляйнодзе — над прылбіцай — шляхецкая карона з трыма страусавымі пёрамі. Пазней гэты знак і пачалі называць «Страла выратавання».

Анатоль Статкевіч-Чабаганаў у сваёй першай кнізе расказваў таксама і пра прадстаўнікоў роду Карафа-Корбутаў герба «Корчак». Ён сведчыць: «Мая бабуля Марыя Аляксандраўна і прабабуля Наталля Васільеўна, мама дзеда Міхаіла Іванавіча Сацкевіча-Статкевіча, паходзілі з роду Карафа-Корбутаў».

Менавіта дзякуючы кнізе «Я — сын Ваш» адбыўся прарыў у гісторыю даўніх беларускіх шляхецкіх родаў. Канечне, і да Анатоля Васільевіча на Беларусі ў згаданым кірунку сёе-тое рабілася. Аднак менавіта дзякуючы намаганням А. Статкевіча-Чабаганава праца гэтая набыла такі мэтанакіраваны, паграмадзянску (дый па-навуковаму таксама) даследчыцкі кірунак. Вынік даў пра сябе знаць не адразу: дваццаць гадоў Анатоль Васільевіч нястомна працаваў у архівах, бібліятэках. На справе даказваў тое, пра што казаў яшчэ Віктор Гюго: «Будучыня належыць двум тыпам людзей: чалавеку думкі і чалавеку працы. Па сутнасці яны складаюць адно цэлае, таму што мысліць — значыць працаваць».

Толькі грамадскасць ацаніла ягоную першую кнігу, як неяк непрыкметна з'явіліся і іншыя. Тым больш усцешна, што за свае кнігі А. Статкевіч-Чабаганаў удастоены Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Высокая ацэнка, але і заслужаная, бо ў каго, як не ў Анатоля Васільевіча, трэба сёння вучыцца адкрываць неадкрытае, спасцігаць яшчэ не спасцігнутае.

Перачытваю адзін з тамоў, прысвечаны Казановічам з роду «Гржымала», і шкадую, наколькі да гэтага быў духоўна бяднейшым. Захапляўся трылогіяй Аляксея Талстога «Блуканне па пакутах» і не здагадваўся, якая багатая біяграфія ў аднаго з яе герояў Барыса Казановіча. Зразумеў, калі пазнаёміўся з чарговай кнігай А. Статкевіча-Чабаганава. Расказаў ён і пра самога Барыса Ільіча, і пра ягоную дачку Алену, змясціўшы яе ўспаміны. Дый пра ўвесь род Казановічаў так распавёў, што хоць садзіся дый пішы дакументальнамастацкі твор.

Аляксандр Пушкін неяк сказаў: «Клянуся гонарам, ні за што на свеце я не хацеў бы памяняць Айчыну ці мецьіншую гісторыю, апроч гісторыі нашых продкаў». Не ведаю, ці знаёмы гэтыя словы Анатолю Васільевічу, ды ўсё адно тым, што выказаў выдатны рускі паэт, напоўнена ягоная душа. Адштурхоўваючыся ад падобнага ўсведамлення, ён робіць так, каб кожны, хто прачытае яго кнігі, пераканаўся, што ведаць па-сапраўднаму гісторыю свайго народа, Айчыны сваёй — гэта адначасова і спазнаваць самога сябе. Каб не быць перакаціполем на зямлі сваёй.

Кнігамі «Я — сын Ваш» А. Статкевіч-Чабаганаў, аднак, нагадвае і пра іншае, а ў дачыненні да яго роду тым больш важнае. Нацыянальная гісторыя такая, што на суровых паўстанках часу лёсы многіх людзей ламаліся, часам лепшыя з гэтых людзей знішчаліся. Важна не толькі памятаць пра іх. Гэтаксама важна і не выкрэсліваць з гісторыі старонкі драматычныя, больш за тое — трагічныя, пры судакрананні з якімі апякае і цябе самога. Падобнае вяртанне ў мінулае — таксама дзеля памяці. Бо памятаць — значыць жыць сумленна, ведаючы і пра тых, без каго і нас не было б на зямлі.

Гэтым і кіруецца ў сваёй творчасці, у сваёй падзвіжніцкай рабоце адзін з выдатных нашых сучаснікаў А. Статкевіч-Чабаганаў. І тады, калі піша кнігі. І калі ахвярye ўласныя сродкі на адраджэнне праваслаўных храмаў. І калі здзяйсняе іншыя добрыя пачынанні. Не сумняваюся, што пры гэтым ён памятае ісціну, якую някепска не забываць кожнаму з нас: «Si Deus nobiscum — Quis contra nos?», што ў перакладзе азначае: «Калі Бог з намі, хто супраць нас?»

***Творчыя сустрэчы з пісьменнікам і гісторыкам Анатолем Статкевічам-Чабаганавым адбудуцца 6 лютага (13.40—14.20), 7 лютага (11.30—12.30) на Нацыянальным стэндзе Беларусі.***

Прэзентацыя

# Прадаўжальнікі справы Кірылы і Мяфодзія

Адна з галоўных падзей у кніжным жыцці краіны — выхад альбома-каталога «Кнігі кірылаўскага шрыфту XVI — пачатку XX ст. у зборы Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь» — сумеснага праекта музея і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Даніла АРЦІМОВІЧ

Калі паглыбіцца ў гісторыю і паспрабаваць адшукаць першую падзею, якая ў рэшце рэшт прывяла да стварэння каталога, дык мы апынёмся ў... 1954 годзе. Менавіта тады пачаў фарміравацца кніжны збор Нацыянальнага мастацкага музея. А першым паступленнем стала рукапіснае Евангелле XVI стагоддзя. Цяпер фонд налічвае 189 адзінак захоўвання. Гэта як рукапісныя, так і друкаваныя (лацінскі і кірылаўскі шрыфт) кнігі. З іх 66 надрукаваныя якраз кірылаўскім шрыфтам. У свой час у генеральнага дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея Уладзіміра Пракапцова з'явілася ідэя скласці каталог, які б уяўляў сабой поўнае апісанне адпаведнай калекцыі музея і ахопліваў XVI — пачатак XX стагоддзя. Ён жа выступіў каардынатарам праекта, вынікам рэалізацыі якога стаў каталог. Дарэчы, гэта першае ў Беларусі выданне, якое ўяўляе сабою поўнае апісанне кніг з Нацыянальнага мастацкага музея.

Навуковымі рэдактарамі выдання сталі Георгій Галенчанка, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, і Алена Карпенка, загадчык аддзела старажытнабеларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея. Урэшце, складальнікамі каталога выступілі Галіна Кірэева, загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, і Наталля Трыфанава, супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея.

Такім чынам, аб'ектам увагі выступілі 66 кніг. Іх геаграфія дастаткова шырокая — сучасныя Беларусь, Украіна, Расія. Патэнцыяльныя карыстальнікі — праваслаўныя, уніяты і старавеpы. Характарыстыка кожнага выдання ўключае апісанне яго мастацкага афармлення (наяўнасць застаўак, ініцыялаў, наборнага арнаменту і інш.), стан вокладкі і паперы, ступень захаванасці. Даведачны апарат прадстаўлены шэрагам паказальнікаў, якія дапамогуць спецыялістам лёгка карыстацца кнігай. Гэта алфавітны паказальнік твораў, згаданых у выданнях; паказальнік імёнаў у запісах; паказальнік геаграфічных назваў (дзяржаўных устаноў, цэркваў, манастыроў), выданняў па месцы і часе іх друкавання, друкароў, друкарняў і г. д. Акрамя таго, альбом аздоблены 130 гравюрамі і іншымі ўпрыгожваннямі кніг, якія дапамагаюць лепш раскрыць тэкст.



Мяркую, найбольшую цікавасць у патэнцыяльных чытачоў могуць выклікаць беларускія выданні. Іх у каталогу 10. Самае ранняе — Евангелле (з сігнатурамі) 1600 года з друкарні братоў Мамонічаў, выданне Акафістаў усясядмічных 1698 года, што пабачыла свет у магілёўскай Брацкай друкарні. А таксама кнігі для старавераў, што выйшлі ў канцы XVIII стагоддзя ў Вільні і Гродне — Псалтыр (1788), Евангелле вучыцельнае, Канонік (1794) і Псалтыр (1795). Што датычыць Украіны, дык большасць з 28 выданняў з'явілася ў знакамітай Кіева-Пячорскай лаўры. Астатнія кнігі выйшлі ў Расіі (большасць у Маскве і Санкт-Пецярбургу).

Як вядома, сёлета будзе ўрачыста адзначана 1150-годдзе з часу стварэння Кірылам і Мяфодзіем славянскай азбукі. А тое, што вядучыя бібліятэкі краіны, навуковыя і адукацыйныя ўстановы бясплатна атрымалі каталог, засведчыла: справа агульнаславянскіх святых не забываецца. А Нацыянальны мастацкі музей плануе працягнуць каталагізацыю свайго фонду.

# Адроджаная з попелу




Выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла кнігу вядомага гісторыка, пісьменніка, энцыклапедыста Леаніда Маракова «Галоўная вуліца». Увогуле, ён аўтар некалькіх дзясяткаў выданняў: з сярэдзіны 1990-х нашчадак рэпрэсіраванага ў 1937 г. беларускага паэта Валерыя Маракова займаецца пошукам сведчанняў пра адпаведную чорную старонку нашай гісторыі. Дзякуючы падзвіжніцкім намаганням тысячы імёнаў і біяграфій вярнуліся з нябыту. У апошняй кнізе пісьменніка-даследчыка з небыцця паўстае былы Мінск — той, што падчас апошняй вайны быў зруйнаваны амаль ушчэнт, Мінск 1880 — 1940-х гг. Пра ўнікальную кнігу «Галоўная вуліца» — наша гутарка з дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура» Уладзіславам Мачульскім.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

**— З чаго пачыналася праца над выданнем?**

— Пра новую гістарычную кнігу Леаніда Маракова я даведаўся з інтэрв'ю з ім у газеце «СБ. Беларусь сегодня» на пачатку 2010 года. На пачатку 2011-га аўтар прынёс рукапіс у рэдакцыю. Гэта быў яшчэ не канчатковы варыянт, і ў час працы над выданнем першай кнігі рыхтавалася другая. Дзеля палягчэння даследавання прастора «Галоўнай вуліцы» (цяперашні праспект Незалежнасці, былая вуліца Захар'еўская) падзеленая на 14 кварталаў, дзе было больш як 300 дамоў. Першая кніга, якую вы цяпер трымаеце ў руках, ахоплівае 5 кварталаў. Другая будзе месціць яшчэ 9, яе выданне плануецца ў гэтым годзе.

Пра кожны дом прыведзеныя гістарычныя звесткі: хто ім валодаў, хто ў ім жыў ці гандляваў, хто якія пакоі арандаваў. Пададзеныя ілюстрацыі: планы дамоў, кватэр і пакояў, тагачасныя паштоўкі і фотаздымкі. І, зразумела, выявы нашага часу. Да выдання другой кнігі будзе падрыхтаваны план-схема досыць буйнога маштабу.

Акцэнт зроблены на жыхарах, іх занятках і побыце, але калі размова ідзе пра гістарычны будынак, іншы раз «выплываюць» падрабязнасці, якіх мы не ведалі: напрыклад, у расповедзе пра будынак РСДРП. Паказаны і след у гісторыі насельнікаў такіх будынкаў. Усё — на падставе дакументаў, без усялякага вымыслу.

**— Цяжка нават уявіць, што гэта вынік плёну толькі аднаго чалавека!**

— Безумоўна, праца ўражвае. Яна вартая доктарскай дысертацыі або намаганняў цэлага калектыву вучоных. Леанід прызнаецца, што некалькі разоў браўся за ажыццяўленне свайго намеру, але адкладаў з-за гіганцкага аб'ёму інфармацыі.

**— Кніга аб'ёмная, багата ілюстраваная, таму каштуе нятанна?**

— Каля 400 тысяч. Калі ўлічыць багацце і разнастайнасць інфармацыі, унікальнасць і навізну, гэта ўжо не падасца дорага.

**— Што абумовіла згоду выдавецтва на такі буйны, працаёмкі праект?**

— Па-першае, попыт. Яго мы штогод вывучаем на кніжных выстаўках: сучасны чытач зацікаўлены ў гістарычных выданнях, дэталёва і якасна дакументаваных. Па-другое, мы падтрымліваем такім чынам дзяржаўную палітыку развіцця турызму. Таму ў далейшым плануецца выданне «Галоўнай вуліцы» на рускай мове. Кнігай змогуць карыстацца турысты і тыя, хто прыехаў наведаць сваю гістарычную спадчыну. На свеце ёсць шмат людзей з беларускімі каранямі — ім, безумоўна, будзе цікава трымаць у руках не проста турыстычны даведнік, але сапраўдны архіў. Такі архіў будзе цікавы і мінчанам, якія часцей за ўсё не вельмі добра ўяўляюць гісторыю свайго горада.

Што да «Галоўнай вуліцы», то яна ўяўляе сабой канцэнтрацыю гэтай гісторыі. На праспекце жылі найбольш уплывовыя ў той час людзі. Прасочваючы іх лёс, мы спазнаём сваю культуру ў асобах.

А яшчэ гэта прынцыпова адкрыты праект. Адкрыты ў часе: можа, хто вырашыць капнуць глыбей, чым ад 1880 г. Адкрыты ў прасторы: на чарзе цяпер — гісторыя жыхароў атожылкаў «Галоўнай вуліцы», прадмесцяў, гісторыя іншых беларускіх гарадоў, гарадкоў і паселішчаў. З гэтага магчыма стварыць найшыкоўнейшую серыю! Зразумела, праект адкрыты ў сабе самім, ва ўдакладненні і пашырэнні інфармацыі: раптам хто знойдзе звесткі, на якія не натрапіў у сваіх пошуках Л. Маракоў. Урэшце, мы гатовыя павялічыць тыраж і рабіць пераклады.

**— Адкрытасць, сапраўды, усебаковая! Сама яе магчымасць сведчыць пра неардынарнасць гэтай выдавецкай падзеі. А як вы лічыце, акрамя гістарычнай навізны ці нясе выданне навізну ў культурным сэнсе? Я маю на ўвазе, ці спрыяе кніга Л. Маракова больш глыбокаму асэнсаванню такой значнай рэчы, як «характар» нашай сталіцы? У апошні час пра яго шмат разважаюць: у сэнсе самаідэнтыфікацыі мінчан і папулярызацыі Мінска як турыстычнага брэнда.**

— Са старонак «Галоўнай вуліцы» паўстае высокацывілізаваны еўрапейскі горад. Горад, дзе жылі высокакультурныя, дасведчаныя людзі. Людзі Беларусі.

**— Але такі горад дасюль не быў навідавоку і на слыху. Мы прызвычаіліся ўспрымаць яго ў строях сталінскага ампіру, які стаў візіткай Мінска.**

— Таму што цэнтр Мінска быў амаль поўнасцю зруйнаваны. «Сталінкі» выраслі на папялішчах мінулай забудовы. Цяпер мы бачым яе як быццам адроджанай.

**— «Галоўная вуліца» стане, відаць, адным з найбольш важкіх экспанатаў стэнда выдавецтва «Мастацкая літаратура» на Міжнароднай кніжнай выстаўцы?**

— Так, і менавіта ў дзень адкрыцця, 6 лютага, адбудзецца яе прэзентацыя.

**— Кніжная выстаўка нібыта падводзіць вынікі Года кнігі. Ён быў сапраўды плённым?**

— Год кнігі — рэальна дзейсная ініцыятыва. Ён даў штуршок, каб людзі больш чыталі. Напрыклад, шэраг арганізацый цяпер замест «цукеркавых» падарункаў для дзяцей супрацоўнікаў замаўляе кнігі. Актыўней сталі працаваць бібліятэкі. Год кнігі — нібы лакаматыў: узяўшы «разгон», ён будзе рухацца шпарчэй і шпарчэй. На гэта ён і быў скіраваны. Нават інтэрнэт і электронныя носьбіты інфармацыі не пашкодзяць кнізе. Наадварот, яны — моцны рэкламны фактар для стварэння і развіцця звычайнай папяровай кнігі, якая будзе сапраўдным фактам мастацтва і культуры.

# Пакінуць запавет



Зборнік дакументаў «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.» быў прэзентаваны грамадскасці выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» сумесна з Нацыянальным гістарычным архівам Беларусі.

**Аляксандр ЯВОРСКІ**

«Трошкі нагадвае «Оскар», — усхвалявана пажартавала Ірына Бобер — галоўны архівіст аддзела старажытных актаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі, пры гэтым вельмі дакладна перадаўшы ўрачыстую атмасферу, якая ўсталявалася ў кнігарні «Прэзентацыя» падчас мерапрыемства. Хвалявацца было чаго: прэзентавалася шматгадовая праца.

Зборнік «Тастаменты шляхты і мяшчан Беларусі другой паловы XVI ст.» прапаноўвае чытачу больш як сто дакументаў апошняй волі жыхароў Вялікага Княства Літоўскага, якія, па словах загадчыка аддзела археаграфіі Беларускага навукова-даследчага інстытута Валерыя Пазднякова, не толькі ўяўляюць сабой аб'ект гістарычнай цікавасці, але і з'яўляюцца каштоўнымі літаратурнымі помнікамі. Менавіта гэтыя тэксты, у асноўным напісаныя на старабеларускай мове (у зборніку прысутнічаюць і дакументы на старапольскай мове), яскрава адлюстроўваюць побыт і духоўнасць тагачаснага чалавека. Сярод тастатараў можна сустрэць такія імены, як Дарота Фірлей, Васіль Тышкевіч, Барбара Кішка, Багдан Янушкоўскі, а таксама многія іншыя.

«Я б падзякавала XVI стагоддзю і яго сучаснікам за тое, што яны паведамілі нам пра сваё жыццё і пра нашу гісторыю», — прызналася Альбіна Аляксандрава, галоўны палеограф аддзела старажытных актаў Нацыянальнага гістарычнага архіва, падкрэсліваючы значнасць выдадзенай кнігі.

На працягу сустрэчы ўкладальнікі зборніка адзначалі поспехі ў сумеснай рабоце з выдавецтвам: толькі за апошні месяц у краме «Прэзентацыя» адбылося тры сустрэчы, на якіх абмяркоўвалася выданне новых кніг. Акрамя «Тастаментаў...» БелЭн выдала серыю альбомаў «Энцыклапедыя рарытэтаў», серыю «Беларускі радавод», а таксама сумесны з Дэпартаментам па архівах і справаводстве Міністэрства юстыцыі Беларусі праект «Сучасная геральдыка Беларусі». Уладзімір Адамушка распавёў, што работа па вывучэнні і публікацыі дакументаў будзе працягнута, вядзецца яна і на дадзены момант.

# Упершыню ад «Звязды»

Сёлетняя кніжная выстаўка для РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», можна сказаць, першая. Першая менавіта ў новым статусе. Аднак падмурак многіх прэзентуемых праектаў закладваўся нашмат раней. Пра падарункі гасцям выстаўкі, чытачам — ужо зробленыя і будучыя — распавядае намеснік дырэктар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут.

**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

**— Да выстаўкі, зразумела, рыхтаваліся ўвесь год. Пачыналі РВУ «Літаратура і Мастацтва» і ў выніку прыйшлі новым буйным выдавецкім домам «Звязда». Ці адбілася гэта нейкім чынам на выніку?**

— Сапраўды, у 2012 годзе «Літаратура і Мастацтва» змяніла свой статус і, аб'яднаўшыся з газетай «Звязда», стала буйным выдавецкім домам. І мы імкнёмся падтрымліваць напрацаванае «ЛіМам», а разам з тым пастараемся дадаць, раскрыць новыя грані брэнда «Звязда». Таму захаваем традыцыі, напрамкі, што былі для нас галоўнымі. Гэта ў першую чаргу выпуск краязнаўчай, дзіцячай, мастацкай літаратуры сучасных аўтараў. Вось і на бягучы год з 14 запланаваных выданняў сацыяльна значнай літаратуры 6 — дзіцячыя. Маленькі чытач для нас — самае галоўнае. Калі ён чытае ў дзяцінстве, значыць, у будучым мы атрымаем дарослага, самастойнага чытача.

**— Ужо прайшоў месяц бягучага года, пэўна, распачаты новыя цікавыя праекты. Што рыхтуеце і што, магчыма, можна будзе пабачыць ужо на выстаўцы — з пылу з жару, як кажуць?**

— Працуем у гэтым годзе над кнігай да Дня беларускага пісьменства «Быхаўшчына. Спатканне з вечнасцю». Гэта ўжо чацвёрты наш праект, прымеркаваны да Свята пісьменства. Вясной пабачыць свет кніга «Кіндэр — вілейскі прывід», выхад якой запланаваны на адзін час з выхадам аднайменнага фільма рэжысёра Алены Туравай. І самы галоўны наш праект — серыя «Созвучие сердец». Мы доўга ішлі да яго: у нас дастаткова выданняў аўтараў дзяржаў СНД, якія перакладзены на беларускую мову і выйшлі ў нашым выдавецтве. Да таго ж, наладжаны стасункі з выдаўцамі многіх краін. Як лагічны працяг нашага супрацоўніцтва — шэраг кніг, у якіх беларускія творы беларускіх аўтараў будуць стаяць побач з замежнымі: расійскімі, армянскімі, туркменскімі, азербайджанскімі. І самая першая кніга ў гэтым шэрагу, якая будзе прадстаўлена на выстаўцы, — «З думай пра Радзіму». У яе ўвайшлі вершы і апавяданні пісьменнікаў Беларусі і Расіі, сярод якіх — Валянцін Распуцін, Глеб Гарбоўскі, Яўген Шышкін, Станіслаў Куняеў, Мікалай Чаргінец, Генадзь Пашкоў, Алесь Савіцкі, Мікола Мятліцкі, Андрэй Федарэнка ды іншыя.

**— Як мне падаецца, стасункі з расійскімі аўтарамі ў выдавецтва ўвогуле вельмі трывалыя, гэта, можна сказаць, ваша адметнасць.**

— Мы друкавалі раней, абавязкова будзем друкаваць у гэтым годзе творы пісьменнікаў з Расіі. Вось і нядаўна свет пабачыла цудоўная, цікавая кніга апавяданняў выдатнага пісьменніка, намесніка галоўнага рэдактара выдавецтва «Литературная газета» Алеся Кажадуба «Эліксір жыцця». Яна, дарэчы, таксама будзе прэзентавацца на выстаўцы — шчыра раю азнаёміцца і з ёй, і з іншымі нашымі выданнямі.

*Падрабязны план мерапрыемстваў «Выдавецкага дома «Звязда» вы знойдзеце на стар. 16. Да сустрэчы!*

# *Год кнігі ў фотаздымках*



*Калядны дабрачынны Баль кнігі.*




*На XIX Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы.*



*Пісьменніцкая вандроўка па Гродзеншчыне.*



*Уручэнне «Залатога Купідона» на Свяце беларускага пісьменства ў Глыбокім.*



*Выданне-пераможца Рэспубліканскага конкурсу «Мастацтва кнігі».*



*Пісьменнікі на гомельскай фабрыцы «Спартак».*



*Прэзентацыя праекта «Маміна казка» ў Радашковічах.*

По традыцыі напярэдадні міжнароднага свята кнігі, якое штогод праводзіцца ў Мінску на пачатку лютага, газета «Літаратура і мастацтва» друкуе творы пісьменнікаў з краін-удзельніц кніжнай выстаўкі-кірмашу. Сёлета мы знаёмім чытачоў з перакладамі вершаў класіка туркменскай літаратуры Магрупі (Курбамалі), паэта старажытнасці Кітая Лі Бая, славутага паэта Расіі Г. Гарбоўскага, а таксама з апавяданнем М. Бахці — знакамітага сучаснага празаіка Таджыкістана.

**МАГРУПІ**

## Што патрэбна?

*Джыгіт, чыя душа — агонь,
Натхніць цябе сяброў далонь.
Яшчэ джыгіту трэба конь
І шаблі вастрыё патрэбна.*

*Як не кахаў — той змрочны дом,
Стань, баязлівец, смельчаком!
Не дружыць скнара з жабраком, —
Будзь шчодрым: дабрыня патрэбна.*

*Дажыў да белых валасоў —
Шмат марна вымаўленых слоў,
Ды лепш бы чуць брэх дварнякоў.
Бо марнасць дзівакам патрэбна.*

*Дзяўчына — як вясновы цвет,
Бабуля — высахлы букет.
Твая краса — на цэлы свет,
А жонкам прыгажосць патрэбна.*

*Я — Магрупі, і я пяю,
О тур-джыгіт, любоў тваю!
Каню і шаблі вастрыю
Твае адвага, спрыт патрэбны.*

## Не будзе ведаць

*Калі джыгіт у беднасці жыве —
Багацце свету міма праплыве...
А сівізна бялей на галаве —
Той смерці век не будзе ведаць!*

*Жыццё не падсалодзіць каравай,
На смерць з пагардай не зважай,
Знячэў удачы не чакай —
Яе і зух не будзе ведаць!*

*Калі цудоўны ты душой,
Жыві парадаю такой:
Джыгіт не стаў самім сабой —
Вялікіх спраў яму не зведаць!*

*Шкада! Смяльчак храбрэй з нягод,
А хіжых большае штогод.
У сіле — подласць. І народ
Канца журбе не будзе ведаць!*

*Заенчыў Магрупі: О Бог!
Не кінь жа! Раб твой занямог.
Ён сярод лепшых быць не мог.
Жыццё згарыць — не будзе ведаць!*

## Вяртайся

*Сярдар, калі адправішся ў Іран,
Вярні жывёлу шаха — і вяртайся.
А калі зноў папросіць шах людзей, —
«Не будзе!» — адкажы ты, і вяртайся.*

*Запомні: добрыя іранцы да пары.
Вазьмі іх быдла, грошы забяры.
Джыгіты нашы там, — якія ім дары
Забылі даць? Зірні і зараз жа вяртайся.*

*Не падманіся, будзе вязніца ўзамен.
Сто ворагаў наб'е адзін туркмен.
Хлуслівым словам прагнуць перамен...
Ты караван паграбіш — і вяртайся.*

*Ты міласці ўладыкі пазбягай
І гнеў яго на нас не наклікай.
Усё пра нашых конных распытай:
Ідуць яны ці не? І сам вяртайся.*

*Прамовіў Магрупі: любой цаной
Даведайся, ці пойдзе шах вайной?
Тады скажы ганцу: «Ляці стралой!»
Свой споўніш абавязак — і вяртайся.*

## Разрабаваны край

*Сябры! Цяпер турбота ў нас адна:
Разрабаваны край наскрозь працяты
горам.
І дэрвіш не цураецца віна,
І п'е мула, і не гняце іх сорам.*

*Набожнасці паміж людзьмі няма,
Прысуд любы гучыць дакорам.
І падзішах лютуе нездарма —
Нукераў б'е, і што яму той сорам.*

*Шлях ісціны — хто ступіць на яго?
А невук возьме й падзішаха зморам.
Не мудрасць — золата вышэй за ўсяго,
А звон манет не прыглушае сорам.*

*У моладзі святых ідэй няма,
Паводзіны не могуць стаць узорам.
Дачка матулю тузае сама,
А бацьку — сын. Нязнаны дзецям сорам.*

*І Магрупі сказаў: я кволы раб,
Ды, як Шыблі, я верай не аслаб.
Сасмажуся ў агні, як той кебаб,
Я жыць хачу, і хай не мучыць сорам.*

## Пакінутая радзіма

*Дзялюся, браты, з вамі смуткам сваім:
Дурун і Мяхін засталіся здалёк.
Падушкі мае, што на даху маім,
Дзе я спаў у хмялі, ледзьве бачны здалёк.*

*У час той, калі шах пускаўся ў набег,
Я мог захапіць па сем чалавек,
Дрыжаў прада мной кызылбашавы бек,
Рабоў тут маіх прадавалі здалёк.*

*Ургенч, Бахра-Іль — краіна адна!
Хаджа аднавокі, то баль, то вайна!
Мой ленгер — Бамі, далеч трошкі відна.
Вабіць кут, дзе жыву, ды не толькі здалёк.*

*Я быў нібы воўк, калі нападаў;
Здрахлелы мой конь, як скакун, там скакаў;
У Дуруне я жыў, у гарах зімаваў,
А радасць жыцця пагубляна здалёк.*

*Я па свежай траве ішоў праз сады,
Па гарах, па хрыбтах з прахалодай
вады...
У сядле я світанак страчаў малады...
Справы ўсё ж Магрупі засталіся здалёк.*

**Пераклад з туркменскай
Віктара Гардзея**



**Глеб ГАРБОЎСКІ**

## Стансы

*З акна глядзець на зарапад,
І вершы пойдуць без адхлання,
Пакуль не ўловіць мозг загад:
Спачыць пад скрыпачку світання.*

*Так і было ў дні перамог,
Калі душа ляцела ў танец,
Ды той матыў, што ўзвысіць мог,
Аджыў... Зіма наводзіць глянец.*

*І трэба сэрцу ў цеплыні
Сачыць за сцюжамі ўдагонку,
І каву піць...
Але ж — зірні!
Ты стаў разваліная звонку.*

*Ды толькі звонку! Не знутры!
Журботны факт, што не забыўся.
Не падай, зорка, — не згары,
Пакуль дажджамі я не змыўся,*

*Не растварыўся ў швох зямлі,
Не сцёк па кроплі спёкай млявай!
Дзівак! Шчаслівы той, калі
Было жыццё яму забавай.*

*Каму не думаць — каву піць,
Слабых ламаць, то, значыць, дужы,
І непасрэднасцю ці быць:
Шып ускалоў — бурчаць на ружы.*

## Апошні дзень

*А будзе ў сераду вось гэту:
Завея, люты, стылы чай.
Сусед ідзе і па сакрэту
Шапне на вуха: «Выручай!»*

*Я дам яму траяк зялёны,
І ён, з падзякаю віну,
Дамоў спяшае, акрылёны,
І скора там вядзе вайну.*

*Куфэрак мой, ён песень поўны,
І я чытаю наўздагад
Аб тым, што гэты свет чароўны
Цяпер і век таму назад.*

*Сцямнее. Я хаваю тайны,
І думаю — яшчэ гульнём,
Забыўшы: гэты дзень звычайны
Для многіх быў апошнім днём.*

## Спыніся, імгненне!

*Не, не калі сыходзіць
дабрадаць —
Любое з мне адпушчаных
імгненняў
Спыніць! — і потым
доўга назіраць,
Без боязі фатальных супадзенняў.*

*Імгненні іншыя, калі я на вайне
Адчуў рулю чужога карабіна,
Або калі цялепкаўся на дне
Якуцкай рэчкі, з краю
над ільдзінай.*

*Спыніць хацеў я вось падобны міг,
Калі, вандруючы зусім не ў блудзе,
Я раптам недаступнае спасціг:
Што Бог — ўва мне,
мяне ж у Ім не будзе.*

* * *

*Зямлю сваю і камень любіць,
Сабачка, птушка, дзікі звер —
Вясной, цяплом, і ў холад люты,
Яе ж люблю я і цяпер.*

*Цяпер, калі нацёрты плечы
Ад лямак лёсу... І на дол
Хаваеш позірк пры сустрэчы.
Спалох і стрэлы — мір вакол!*

*Без ворыва люд гарапашны,
Зыход і збег — да новых Мек.
У сваёй зямлі ляжаць не страшна,
Страшней — каб страціў навек.*

* * *

*Агародная — высакародная
Глеба розная, толькі ў ёй
Лёсы стоеныя народныя
І планеты прыкметы ўсёй.*

*Пад рыдлёўкаю штосьці бразнула?
Не спяшай капаць — тармазні!
Хоць іржавае — незаразнае
Тут набудзеш і ў нашы дні.*

*Вось цвікі, кавалём гранёныя,
Побач з кузняй бяры хоць кош.
Вось і зорачка ад будзёнаўкі,
І чаканкі даўнейшай грош.*

*Штык нямецкі, падковы шведскія
І ад дзіды пусты ражон.
Штоф з арламі, а тут савецкія
Гора-гузікі ад кальсон.*

*Куля — тая, калісь прапалая,
Крыж нацельны, як ізумруд.
Быццам лісце жыцця апалае,
Колькі страціў працоўны люд!*

*Тут, пад Волхавам, каля Ладагі,
На грудах, на сямі вятрах
Людзі добрыя быт свой ладзілі —
Ды свяціцца іх дзіўны прах!*

**Пераклад з рускай
Віктара Гардзея**

**Лі БАЙ**

## З песень восеньскага берага

*Голы бераг на восеньскай рэчцы,
Падарожны самотны на ім.
Хто самоту яго зразумее, дарэчы,
Яе змерыць не зможа нічым.*

*На скалу ён узняўся няспешна.
Там, унізе, віры на вадзе.
Доўга-доўга з пяшчотнай усмешкай
Ў накірунку Чаньані глядзеў.*

*І сказаў ён рацэ хуткаплыннай:
— Ты таксама мяне ўспамінай.
Жменьку слёз маіх, маці ад сына,
Захапі, занясі ў родны край!*

## Гляджу на вадаспад у гарах Лушань

*Тугой жыватворнай лавінай
Імчыць вадаспад у даліну.
Струмені бы з воблачных нетраў
Ляцяць мо праз тысячу метраў.
Няўжо Млечны шлях — ці здалося? —
Сюды апусціўся з нябёсаў?*

## Летнім днём у гарах

*Мне веерам і то лянота
Махаць у такую спякоту.
Лепш да лесу я дабяруся,
Там прысяду і распрануся.
А ўбор галаўны адмысловы
Як падалей адкіну ў траву:
Хай мне ветрык свежы,
сасновы,
Льецца з водарам
на галаву.*

## Аплакваю сюаньчэнскага майстра-вінароба, старога Цзы

*Мой даўні сябар
Пайшоў на той свет.
Там ён рыхтуе
Свой вінны букет.*

*Ды хто без Лі Бая
Там рэй павядзе?
Выходзіць, пакінуў
Я сябра ў бядзе?*

## Пры месяцы адзінока наліваю сабе віно

*Гарлачык з віном сярод кветак
Паставіў парою начной.
Віно падабаецца гэта,
Няма толькі сябра са мной.*

*Узяў я фужэр, самы-самы,
І месяц паклікаў з нябёс,
І цень свой выразны таксама...
І трое, здаецца, нас ёсць!*

*Вось месяц гуляе вясёлы,
І цень побач скача, як я.
Ляціць да нябёсаў мой голас,
Бясконцая песня мая.*

*Мы танчылі так і спявалі.
Калі ж разабраў нас напой,
Тады разыходзіцца сталі,
І кожны — дарогай сваёй!*

## Прытулак у храме на вяршыні гары

*Сёння душа і цела
Займелі прытулак свой.
Гронкі зорачак спелых
З даху храма карцела
Мне ўночы зрываць рукой.*

*Слоў жа зямных не трэба.
У храме парадак свой:
Тых, хто жыве на небе,
Нельга трывожыць спакой.*

**Пераклад з кітайскай Паўла Саковіча**



## Мехмон БАХЦІ

# Казка сяла

Наш дом стаяў на раздарожжы.

Аднойчы ўвесну — якраз быў час садзіць дрэвы — я схапіў кніжкі, сшыткі і выбег на вуліцу. Мае сябры, трымаючы ў руках саджанцы, неслі іх да школы. Я ж абыякава глядзеў на ўсю гэту мітусню, чакаючы толькі з'яўлення Гулгунчы. Амаль увесь год мы кожную раніцу разам ішлі ў школу і разам вярталіся. Суседзі і маці наракалі на мяне: чаго, маўляў, я важдаюся з дзяўчынай, старэйшай гадоў на пяць-шэсць? А я не звяртаў увагі на гэтыя размовы, наадварот, ганарыўся, трымаўся, як пераможца на спаборніцтве, — Гулгунча ж вучылася ў дзявятым класе, а я ў пятым...

Нарэшце я ўбачыў Гулгунчу ля мячэці, адразу ж кінуўся насустрач, узяў з яе рук дрэўца серабрыстай таполі. Шаўковая, крыху палінялая сукеначка і зялёная хустачка надзвычай пасавалі дзяўчыне — іхняя сціпласць надавала ёй асаблівую вабнасць і пекнасць.

Мы разам пакрочылі да школы. У гэтыя хвіліны, усхваляваны і ўзрадаваны, я з натхненнем гаварыў пра зямное і нябеснае, прычым, відаць, даволі-такі ўдала, бо яна ўвесь час смяялася.

На перапынку я проста праз вакно выскачыў на двор і падбег да Гулгунчы, якая разам з сяброўкай садзіла дрэўца, засыпаючы карані зямлёй. Занятыя сваімі справамі, дзяўчаты не звярталі на мяне аніякай увагі. Я некалькі разоў прайшоўся каля іх. Ніякай увагі! Тады я ў адчаі зачапіўся за галіну вярбы і пачаў з усяе сілы гайдацца на ёй. Аднак Гулгунча ўсё яшчэ не заўважала мяне. Яе ўвагу прыцягвалі хлопцы, якія заняліся барацьбой на спартыўнай пляцоўцы. Добра разгайдаўшыся, я саскочыў з галіны і апынуўся каля хлопцаў. У параўнанні з іншымі школьнікамі больш дужым за мяне, на маю думку, быў толькі Шарыф, мой аднакласнік. Я адразу ж схапіўся з Шарыфам і пачаў быў валіць яго, але ён злаўчыўся і даў мне падножку, адкідваючы мяне назад, на спіну.

Я зірнуў на Гулгунчу — яна смяялася. Ад пякучага сораму я не ведаў, куды падзецца, што рабіць, і зноў накінуўся на Шарыфа, але цяпер паспеў шапнуць яму на вуха: «Зрабі ласку, дружа, паваліся калі не на спіну, дык хоць на бок, а за гэта я дам табе свой чырвоны аловак!» Ён адразу пагадзіўся, я з выглядам волата-пераможцы падняўся, абапіраючыся на яго каленямі, але Гулгунча па-ранейшаму не глядзела на мяне, занятая пасадкай дрэўцаў. «Ці хоць бачыла яна, як Шарыф паваліўся?» — апанавала мяне роспач.

Пасля заняткаў маці выправіла мяне да суседзяў — па насенне кветак. Некалькі хвілін я здалёк глядзеў на суседскі дом, які стаяў сярод яблыневых і абрыкосавых садоў. Я добра бачыў плот ля дома, двор, пляц зямлі. Вакол нікога не было, і ўсё ж такі падумалася: а раптам вось цяпер мае таварышы з усяго наваколля назіраюць за мной і кажуць, цішком смеючыся, адзін аднаму: «Ну добра, пабачым, што ён пачне тут рабіць. Відаць, пойдзе ў двор?» Я пачаў азірацца па баках, але нікога нідзе не заўважыў.

Нарэшце я адважыўся і ўвайшоў. У самым кутку тэрасы маці Гулгунчы перасыпала з мяшка ў вялікую драўляную пасудзіну жыта. Я ўбачыў яе, разгубіўся і не ведаў, што рабіць, што сказаць, як сябе паводзіць, апусціў галаву і стаяў моўчкі.

— Хадзі сюды, хадзі, мой хлопчык, — маці Гулгунчы паставіла пасудзіну на зямлю і сама падышла да мяне.

— Мама загадала прынесці насення ружы...

— Якога насення?

— Не ведаю, сказала, ідзі ў дом да дзядзькі Карыма і прынясі насення ружы, — хвалюючыся і саромеючыся, паўтарыў я: язык не слухаўся мяне.

— Гулгунча, гэй, Гулгунча! — усміхаючыся, паклікала маці. — Прынясі малодшаму брацiку тваіму Ісматджону трохі насення ружы. А я пакуль што іду малоць жыта.

Яна паставіла пасудзіну з жытам на галаву і пайшла на млын.

Гулгунча таксама заўсміхалася мне чароўнай усмешкай і таксама ветліва запытала, насенне якой менавіта ружы мне патрабуецца.

— А ўсё роўна, якія табе самой падабаюцца, тыя мая маці і возьме, — сказаў я, не адводзячы ад яе вачэй. — А ўвогуле, не турбуйся. Калі сёння не знойдзеш, заўтра пасля ўрокаў разам прыйдзем. А яшчэ ўдакладню ў маці, насенне якой ружы яна хацела, і заўтра прыду.

Гулгунча запрасіла мяне сесці на сафу, перакінула на грудзі адну са шматлікіх тонка сплеценых косак і села насупраць. У гэты момант я чамусьці ўявіў сябе маладым мужчынам, якому даўно знаёмае полымя кахання і які ўжо рыхтуецца ўзяць сабе жонку.

Гулгунча працягнула мне піялу з духмяным чаем і нечакана запытала, хто з хлопчыкаў і хто з дзяўчынак у селішчы мне падабаецца. Я пачырванеў да самых вушэй.

— Няўжо няма нікога, хто быў бы блізкі твайму сэрцу? — зноў пацікавілася яна.

— З хлопчыкаў Хамід мне падабаецца, а з дзяўчынак...— я пачырванеў яшчэ больш і дагаварыць не насмеліўся. Кроплі халоднага поту пацяклі ў мяне пад кашуляй па спіне... Я глядзеў толькі на піялу ў сваёй руцэ.

Твар Гулгунчы запунсавеў ад дзявочай сарамлівасці, вочы яе міжволі заззялі жартаўлівай гарэзлівасцю.

— Ты, Ісматджон, не знаўца людзей, — смеючыся сказала яна. — Дзе ўжо там Хамід можа табе падабацца! Хлапчук ганарысты, ды і хвалько да таго ж.

— Не, ён выхаваны і прыгожы, — пярэчыў я, — да таго ж, вучыцца на «выдатна»...

Гулгунча ўвесь час жартавала, выстаўляючы Хаміда ў непрывабным і смешным выглядзе. А я, наадварот, хваліў яго, зацягваючы спрэчку, каб як мага даўжэй заставацца з ёю і смяшыць яе. Цяпер я не ўспамінаў ужо ні пра якое насенне ружы, ні пра просьбы маці.

На наступны дзень, як толькі празвінеў званок і пачаўся чацвёрты ўрок, праз акно я ўбачыў, што вучні дзявятага класа выйшлі на спартыўную пляцоўку. Пачынаўся ўрок фізкультуры. Гулгунча ішла ззаду. Я падскочыў да класнай дошкі, схапіў анучку. Аднакласнікі са здзіўленнем глядзелі на мяне.

— Вось пайду, анучку намачу... ды вось... крэйду прынясу, га, настаўнік? — прапанаваў я, а настаўнік, які на той час гартаў класны журнал, каб праверыць, хто з'явіўся, а хто адсутнічае, машынальна кіўнуў галавой на знак згоды.

Я пабег на спартыўную пляцоўку і пачаў шпацыраваць сюды-туды, але Гулгунча мяне не заўважала. Раптам позірк мой выпадкова спыніўся на кучы камення і попелу ля пляцоўкі.

— Во, — узрадаваўся я, — зараз узлезу на гэту глыбу і кінуся ўніз. Попел узнімецца ў паветра, усе будуць смяяцца і глядзець у мой бок. Безумоўна, Гулгунча будзе ў захапленні і рагатаць пачне ад усёй душы. А яе сяброўкі скажуць ёй: «Ісмат на дзіва разумны і адважны. Бач, як ён з гэткай вышыні кінуўся ўніз».

З гэткімі думкамі я хуценька ўскараскаўся на каменную глыбу, цішком назіраючы за Гулгунчой. Ні яна, ні іншыя не надалі гэтаму ўвагі. Тут я гучна — хоць вушы затыкай — свіснуў некалькі разоў і, нібыта арол, што магутна распасцірае шырокія крылы, раскінуў рукі на самай вяршыні, пачаў ваўчком круціцца на месцы і нарэшце зваліўся ўніз.

У нос і рот панабіваліся пыл і попел, сэрца зайшлося, уваччу зрабілася цёмна. Я ўстаў, хацеў атрэсці вопратку і зноў лезці ўверх на глыбу.

— Ісмат, што гэта яшчэ за глупствы такія! Зараз жа ідзі адгэтуль! Не перашкаджай нам праводзіць урок! — з гэтымі словамі да мяне наблізіўся раззлаваны настаўнік фізкультуры.

Увесь запэцканы ад пятак да макушкі, я пабег да крыніцы — хацеў зняць з сябе вопратку, пазмываць бруд і сажу з твару і рук. Ля крыніцы сядзеў Хамід, глядзеў на спартыўную пляцоўку і рабіў нейкія знакі камусьці. Я схаваўся за невысокі будынак школьнай бібліятэкі. Неўзабаве з'явілася Гулгунча. Яна азірнулася па баках, тады выцягнула запіску і працягнула яе Хаміду. Я не мог паверыць сваім вачам. Толькі цяпер я зразумеў, каму ўсміхалася Гулгунча на ўроку фізкультуры! Мая рука сама пацягнулася па камень і моцна сціснула яго. Хамід нешта радасна гаварыў. Я ўжо меўся шпурнуць камень у Хамідаву спіну, як раптам мяне апаліла думка: «А калі камень трапіць яму ў галаву, што я тады буду рабіць?»

Я не ведаў, як адпомсціць. Пайсці да дырэктара школы і паклікаць яго сюды — хай пакарае Хаміда? Гулгунча штосьці гаварыла і нешта малявала палачкай на пяску. Я, не вагаючыся, кінуў камень у ваду — пачуўся звонкі гук і ва ўсе бакі паразляталіся пырскі. Я стаіўся і чакаў, што будзе далей, але нарэшце высунуў нос са свайго схоўшча і зразумеў, што гэтыя двое нічога не чулі і не бачылі...

Уначы я не заплюшчыў вачэй, круціўся на сваім ложку, з нянавісцю і агідай успамінаючы шчаслівых Гулгунчу і Хаміда. Што было ў той запісцы? «Акрамя цябе нікога не кахаю»?

Зорнае неба зацягнулі хмары, страшэнная навальніца і асляпляльнае святло маланак парушалі спакой селішча. Няўжо Гулгунча не кахае мяне?! І я ж калі-небудзь зраблюся дарослым. Дзіўна, і чаго яна ўпадабала гэтага тупагаловага Хаміда?

Раніцай мяне пабудзіў бацька.

— Уставай, сын мой! Учора я дамовіўся з тваімі настаўнікамі. Зараз жа паедзем у кішлак Наўдонак да тваёй цёткі. Неадкладныя справы...

Я неахвотна падняўся і, маркоцячыся, запытаў:

— А калі вернемся? Урокаў многа, настаўнікі будуць сварыцца.

— Меней гавары! Збірайся, зараз жа выходзь на дарогу. Снедаць нам з табою давядзецца ўжо ў цёткі.

У далёкім кішлаку бацька купіў ажно тры мяшкі жыта, змалоў на мясцовым млыне і з маёй дапамогай перацягнуў у цётчын дом. Я ўсе гэтыя дні ўспамінаў Гулгунчу. «Можа, яна з Хамідам уцякла ў райцэнтр? Дзе яны ў гэтыя дні сустракаліся? Відаць, у садах, сярод квецені, а можа, у класе пасля ўрокаў...» Я ўсё шукаў, у чым бы абвінаваціць Хаміда, падмацаваць сваю антыпатыю да яго, але ні ў паводзінах, ні ва ўчынках не знаходзіў нічога, што магло б паслужыць прычынай маёй нянавісці да хлопца.

Нарэшце, на чацвёрты дзень мы вярнуліся дадому. Увечары, слухаючы размовы бацькі з маці, я ўведаў, што заўтра ў Вахшскую даліну з нашага сяла перасяляюцца некаторыя землякі, у тым ліку і сям'я Гулгунчы. Гэта навіна зусім сапсавала мой настрой.

З самай раніцы я апынуўся ля дома дзяўчыны і загадзя схаваўся за вялікім кустом шыпшыны. Каля варот ужо стаяў расхістаны калгасны воз і прымацаваныя да яго сані-валакушы. З дому выйшаў бацька Гулгунчы — дзядзька Карым — і Шакір — малады фурман. Яны паставілі на воз два старыя, у паблёклых фарбах, куфры і зноў пайшлі ў двор. «Пра што думае і марыць цяпер Гулгунча, чым яна цяпер займаецца? — разважаў я. — Чаму яе нідзе не відаць?» Зноў сэрца маё апанавалі страх і раўнівыя падазрэнні. Барані Божа, разам з Хамідам куды знікне! Я адганяў гэткія думкі, прыслухоўваўся да галасоў у іхнім двары.

Стары дом, сцены якога ўзімку ўбіралі вільгаць, а ўвесну пакрываліся саланчаковай скарынкай, трымаўся ўжо з апошніх сіл. Як толькі гаспадары наважыліся пакінуць яго, ён, здаецца, апрануўся ў жалобную вопратку і пачаў цяжка асядаць уніз. Я падумаў, што неўзабаве ніхто больш не ўбачыць і не пачуе ні крокаў, ні галасоў яго былых гаспадароў — тых, хто жыў тут і захоўваў яго, клапатліва прыбіраў, падмятаў, парадкаваў. Назаўсёды знікнуць дасціпныя жарты, вясёлы смех, звонкія галасы.

З такімі думкамі я выйшаў на дарогу і пашыбаваў у бок аэрапорта. І вось нарэшце «паветраная гавань». Я спыніўся ля чайханы і вачэй не зводзіў з дарогі, на якой павінны былі з'явіцца мае аднавяскоўцы. У хуткім часе пачулася тарахценне воза, якім кіраваў Шакір. Ззаду ішоў бацька Гулгунчы, далей — яе маці са старой Хадзісай і дзвюма незнаёмымі мне жанчынамі. У самым хвасце гэтай працэсіі рухаліся сані-валакушы.

Гулгунчы не было. Я хацеў падысці да яе маці, каб распытаць пра дзяўчыну, але раптам мой позірк сустрэўся з позіркам Хаміда, і я адмовіўся ад свайго намеру. Хамід сядзеў на каменнай пліце, штосьці маляваў палкай на зямлі, а сам раз-пораз паглядаў на дарогу, на якой мы нарэшце ўбачылі групу дзяўчат, сярод якіх была і Гулгунча. Тут Хамід падняўся са свайго месца, і, цяжка ступаючы, наблізіўся да яе. Гулгунча павярнулася да яго і акінула позіркам з галавы да ног. Відаць, Хамід не зразумеў гэтага позірку, таму што апусціў галаву і зноў пачаў маляваць палкай адмысловыя фігуры на зямлі.

Я глядзеў то на Хаміда, то на Гулгунчу і не ведаў, што рабіць. У гэты момант пачулася гудзенне самалёта. Мужчыны і жанчыны захваляваліся, усталі, гледзячы ў чаканні на ўзлётна-пасадачную паласу. Бацька Гулгунчы штосьці сказаў ім. Хамід зноў падаўся наперад. Гулгунча кінула на яго шматзначны позірк, выцягнула з кішэні запіску і аддала яго малой сястрычцы. Тая перадала яе Хаміду, і ён зноў подбегам накіраваўся да дзяўчат. Я хацеў кінуцца да Хаміда, выхапіць з ягоных рук тую запіску, а пасля падысці да Гулгунчы... Але чамусьці ногі мае зрабіліся слабымі, калені пачалі падгінацца...У гэта імгненне я ўбачыў, як позіркі хлопца і дзяўчыны сустрэліся, і Хамід моўчкі, аднымі вачыма штосьці сказаў Гулгунчы.

Мне здавалася, што ўсе цяжкасці, ўся туга, усе неадольныя турботы зямлі сканцэнтраваліся на гэтым самалёце. Я хацеў падысці, развітацца з Гулгунчой, але ногі па-ранейшаму не слухаліся мяне. Дзяўчына паднялася па трапе самалёта, у апошні раз памахала рукой Хаміду і ўсім людзям. Самалёт адарваўся ад зямлі, падняўся ў вышыню і пакінуў пасля сябе ў блакітным небе толькі доўгі белы след...

**Пераклад з таджыкскай Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

